Да Новае Літвы Мая першая вестка.
Ты, хто даў Ашрам,
Ты, хто дала два жыцьці,–
Зьвястуйце.
Будаўнікі ды воі, умацуйце сходні.
Ты, хто чытаеш, калі не засвоіш – перачытай па часе.
Наканаванае не выпадковасьць, і лісьце ападае ў свой час.
Але зіма – толькі вястунка вясны.
Усё адчынена, усё даступна.
Я вас замкну тарчою – працуйце.
Я сказаў.

Я – тваё Дабро.
Я – твая Ўсьмешка.
Я – твая Радасьць.
Я – твой Спакой.
Я – твая Цьвердзь.
Я – твая Сьмеласьць.
Я – твае Веды.

## КЛІЧ

1. Камень каштоўны, адзіны, дабром у жыцьці захавайце.

Аум Тат Сат, Аум.
Я – вы, вы – Я – часьцінкі Боскага Я.
Воя Мая! Шуміць жыцьцё – асьцярожней!
Небясьпека! – Душа шолах чуе.
Цяжка сьвету – сьпяшайцеся ўратавацца.
Я асану заклікаю аб вас –
Уратаваньне вам!
Жыцьцё жывіць душу.
Сьцьверджаньне чыстага Я.
Працуй дзеля жыцьця і ўсьведамленьня чысьціні.
Пакіньце ўсе забабоны – думайце вольна.
Не адчайвайцеся і спадзявайцеся.
Не сыходзьце ад жыцьця – вядзеце сябе вышнім шляхам.

І Мы, і вы – мы ўсе тут у вадзінстве, у духу.
Храм усім. Усім Адзіны.
Дом Божы заселены сусьветамі, і ўсюды лунае
Сьвяты Дух.

Аднаўленьне сьвету прыйдзе – казаньні споўняцца.
Народы паўстануць і пабудуюць Храм Новы.

2. Жыцьця шчасьце знайдзі ў творчасьці і вока зьвярні ў пустэльню.

Да Хрыста каханьнем прагнучы, Хрыстусу радасьць нясу.

У цябе сьвятло ад скрыдлаў.

Сыходзячы, зноў убачыш Мяне.
Ня трэба гнобіць сябе.
Знайдзі мужнасьць да перахаваньня таямніцаў!

Думайце пра вялікі дар каханьня да Адзінага Бога
і здолейце разьвіць вялікі дар відушчасьці
ў будучую Еднасьць Чалавецтва.

Адзіны паратунак – памкнуць дух у зьзяньне Праўды.
Вялікі дар каханьня жыве ў вадзінай відзежы,
дадзенай сьмелым душам. Ты, якая бачыла!

Праўдзіва перадаць прамяністую зьяву Духу
ёсьць чыстым мастацтвам.
Праз мастацтва маеце сьвятло.

Карма вашая – Літву ўхваляць.
Нясі сьвятло дадому.

Сусьветная энэргія ўратуе сьвет.

3. Хто пакутуе ад зямных пытаньняў, той адказу аб Нябесным не атрымае.

Лёс можа адхіліць удар ад вас, калі вы будзеце
дапамагаць Справе Хрыстуса, які аддаў Сябе
за Праўду.

4. Мае сябры! Шчасьце – слугаваць выратаваньню людзкой душы.

Адрыньце ўсе забабоны, скарыстайцеся моцай
і духова дапамагайце людзям.
Памкнеце брыдкое да хараства.
Як дрэва ўзнаўляе лісьце, гэтак людзі
квітнеюць на шляху дабра.

5. На дабро накіроўвайце вашых сяброў.

Не хавайце Нашых паведамленьняў.
Сачэце сэрцам за Нашым намаўленьнем.
Працуйце і ўведаеце сьвятло.
Я пакажу вам шлях – знак Наш сэрцам адчуеце.
Ведайце, Настаўнікі адчыняць вам ліру, на дзіва
падобную, ейная моц адорыць дарам
улаўленьня чалавекаў.
Усьведамце пасланую Ласку Боскую.
Дзеля адзінага шчасьця плывуць вашыя дні.
Ляяльнасьць – доля тых, хто хоча йсьці
шчасным шляхам узыходжаньня.

Хто дакладна выконвае Нашыя патрабаваньні,

той вуха прыкладзе да гармоніі.
Шчасьце вам прыносячы, спадзяемся на вашае памкненьне да дабра.
Праўда з вамі, здолейце адчыніць ёй шлях.
Як неба бяздоннае, гэтак моц вашая вялікая.

Захоўвайце самоту.
Бог альбо Аум ёсьць Найвышэйшая Істота вашага нутранога быцьця.

6. Маё дыханьне – да Красы парываньне.
Дар, дадзены праз афяры засмучэньні, узьнясе вас да шчасьлівага шанцунку ў пошуках.
Адыдзецеся ад жыцьця мёртвага.
Кахайце жыцьцё, якое зіхціць думамі ў ваблямоўцы Боскага зьзяньня.
Сьцьвердзецеся ў росьце моцы вашага духу.
Здолейце памятаць заўжды пра Браму, паказаную Намі.
Чыстае дыханьне Нашае Ласкі дае вам мацунак дзеля паўнаты жыцьця.
Скокі злосьці няхай перад Храмам супыняцца,
І вагонь мужнасьці асьветліць дом ваш.
Таму выправім сьвятло, хто ўсьміхаецца цемры.

Ужо ўзыходзіць дух ваш – сьцюжа ня сьціснe палкага сэрца.

Правіца Быцьця сьцьвердзілася і ўзьнесла ранішнюю заранку.

7. Навошта йсьці шляхам маўчаньня?
У жыцьці пі крыніцу гукаў ды колеру – мазгі дужэюць.

8. Ня трэба рызыкаваць у штодзённым жыцьці – прасьцей будзьце.
Мае сябры! Асабістыя справы ня мусяць афарбоўваць вашую аўру.

9. – Адыдзіся, Палымяны!

– Ня засьці Брамы Нябеснай!
Стварыў жыцьці, шчасныя ўсьведамленьнем Духу.
Не зьмяншайце значэньня таго, чаго ня ведаеце!
Знак, вам дадзены, шануйце.
Трэба вам чакаць абуджэньня новай духовай сьведамасьці.
Шматлікія сумнівы расьсееце ў далейшай працы.
Прызнаю патрэбнымі і непазьбежнымі ўздым сілаў ды змору.
Мудрасьці Голас адчыніць дзьверы Нязьведанага.

10. Кахайце адно аднаго – разьяднаньне жудаснае.
Дорага плацім за легкадумнасьць і балбатлівасьць.

11. – Чаму, Палымяны, Твар свой адварочваеш?
– Мой позірк боль табе прычыняе; тваім скрыдлам яшчэ ня вольна.
Не лютуй духам, угледзь вялікае ў малым.
Прыходзяць веды ня хутка, калі дух хвалюецца.
Мы даем вам шляхі.

Не разгортвайце выпадковых кнігаў.
І пры адведках сходак ашчадна нясеце каганец, дадзены вам.

12. *Малітва дарогі да сакрамэнтальнай запаведнай Сядзібы*

Гаспадар духу майго, не пакінь вандроўніка!
Гуру не сьпяшаецца схаваць мяне ў пагрозьлівую буру.
Боль дойдзе да самага дна сэрца.
І плёнка віхуры заслоніць сьвятло Твайго Аблічча.
З Табою не лякаюся майго няведаньня.
Здані не паказваюць свайго твару.
Праўдзі, Ойчанька, сьцежкаю.
Дакраніся да вачэй, каб угледзець Браму Тваю.

13. Літва будзе вартаўніцай лёсаў сьвету.
Дачка сьвету можа долю перайначыць.

Наступае Новы Сьвет. Афяры прынесеныя –
сходзень узыходжаньня.
Росту дапаможа давер, калі дух адкрыты,
каб успрыняць.
Не прымайце матэрыялізацыю за значную
зьяву –
Словы мудрасьці важнейшыя.
Нашто вам матэрыялізацыя, калі маеце
мудрасьць?
Няўжо на Літве не асягнуць духовасьці
і выберуць вонкавасьць?

Мае сябры! Праходзьце хутчэй першыя прыступкі
і, чыстыя, узыходзьце на гонар Айчыны;
і калі Я прапаную вам золата, манэты,
краскі ды каменьне – ухілецеся.

Нашто вам маскі, калі маеце мудрасьць?

14. Трымаем дзіду жыцьця і ўсьмешкай хапаем
слонца этэр гаючы.

Вазьмі дзіду на ўзыходзе слонца.
І скіруй коней ранку ў дзяняшнюю сьпёку жыцьця.

І лілеі закрасуюць на камяні.
І кельлю адчыні насустрач першаму промню.
І птушкі запяюць хвалу працы.

Вучэцеся на прыкметах жыцьця Мудрасьці
Творцы.
Выканаўцы добраахвотнай місіі здымаюць грым
з вобразу зямнога, угледзеўшы сэнс пройдзенага
жыцьця.

15. Умацуйцеся ва ўсьведамленьні Нашае прысутнасьці
ў вашым жыцьці.

Тую Моц заклікайце ў справах вашых.
Радуйцеся, хто зразумеў!
Жывеце напоўніцу і выпрабоўвайце.
У выпадках непаразуменьня Мы пая�сьнім у жыцьці,
але зважайце.

Дамо цуды ў жыцьці вашым, але ўгледзьце.
Прымайце сэрца за галоўнага судзьдзю, а веру за моц.
Задавальняйцеся дакладнымі наказамі шэптам духу вашаму.
Шчасьлівы шлях скіравалі да Мяне сябры.
Трэба навучаць памкненьню да Майго Сьвету – Сьвету Ўсьведамленьня Духу.

Праўдзівыя храмы ствараць трэба на шчасьлівай, чыстай глебе на Літве, у жыцьці вашым.
Настойліва адчынеце Браму сэрцам, якія шукаюць.
Я ведаю, калі належыць адчыніць Новую Браму.

16. Навучэцеся дасьледаваць найвышэйшыя зьявішчы, карысныя для людзтва.
Энэргія чалавецтва стварае вобраз чалавека.

17. Думаю, што Сьвятло сыдзе на вас шляхам Навукі.
Навучаць ды кахаць – праява Ласкі Боскай.

18. Думай прасьцей, хадзі блізкаю сьцежкаю, але ўзыходзь вераю ў духаў Дабра, і не памылісься.
Іду да вас на помач – няўжо сьляпыя?
Кахай чыстае ўсьведамленьне моцы, і гэтым пераможаш.

19. Шлях цяжкі ў краіну веры.
Памкнеце розум на радасьць творчасьці.
Каб памкнуць дух, трэба выгнаць непатрэбныя думкі і быць падрыхтаваным прыняць хвалі вібрацыяў, якія Мы выпраўляем.

20. У моцных духам чыстыя думкі ўтвараюць сутнасьць зьяваў жыцьця.
21. Чыстая малітва даходзіць –
Ля падножжа Хрыстуса яна закрасуе срэбрам.
Чыстым сінім вагнём палае
Слова-Кліч.
І зьзяе Афярны Келіх.

Божа, асушы нашыя сьлёзы і зірні на полымя
 нашага сэрца.
“Я полымем асушу вашыя сьлёзы і ўзьнясу храм
 вашага сэрца”.
Здымеце шаты вагменю: Валадар прыходзіць,
 скарб келіху Ён пераўтварыў,
 і начыньне Ён вяртае запаленым.
Полымя, сьцьвердзіся, двухзначнае,
 сьцьвердзіся, двухканцовае!
Радасьці сьлёзы – Боскае віно – зьзяюць чыстым
 вагнём.
Сэрца, вылі віно сьлёзаў, але не засьмягні,
 сэрца маё.
Чым напоўню келіх, Валадару!

22. Кахайце гармонію.

Я знак шчасьлівы Гупта выправіў.
Слова Маё – медзь зіхоткая.
Сядай – на чуйнае вуха вусны прамовяць.

23. Я – пяску сьпёка.
Я – полымя сэрца.
Я – хваля паглынальная.
Я – зямля адроджаная.
Радуйся, напоўніся прасьвятленьнем.

24. Маліся да Хрыстуса, здолей знайсьці радасьць
 звароту да Творцы.
Вучыся і адчыні Браму Ведаў і ўмацуйся
 ў разуменьні Пляну Боскага.

25. Чыстую думку ў Нас  вуха ловіць.
Зьведаеце шмат, і чыстым шляхам можаце йсьці,
 але сьцеражэцеся гневу й сумневу.
Калі пераможаце – прасьветліцеся.
Калі занепадзіце – азмрочыць віхор душу вашую.
Паляпшайцеся, сябры, безупынна.
Проці голасу духу ня йдзеце,
 але замкнеце зямныя галасы.
Адважвайцеся – Я з вамі.

26. Вучэце іншых на выкананых справах,
але вы не павінны вінаваціць чужых за ўчынкі невуцтва.
Цёмных шмат – трэба даравацць.
Іхны дух ледзьве пазначаны.

Аніштo не застрашыць вас, і Брама абяцаная чакае вас.
Выганяй маладушнасьць – Я для сьмелых тарча.

27. Я вучу вас Маёй мудрасьці.
Я ня мост, які абяцае, але Сьвятло, якое кліча!
Я навучаю каханьню.
Вучні мусяць шчасьце зьведаць у Каханьні Хрыстуса.

28. Каханьне можа ствараць сусьветы.
У Гаспадара Майго роўныя мудрасьць і каханьне.

29. Вада не залье вагню, але абмые сьвет.
Бруі крыві не змываюцца.
Новымі бізунамі зло сьвету будзе сьцятае.
Я навучаю шчасьцю, Я дам шлях змаганьня з гандлёўствам сьвету.
Людзі зайшлі ў бязвыйсьце, але бліскавіцы асьветляць іхны шлях,
і гром пабудзіць паснулых.
Горы абрынуліся, вазёры паўсыхалі, залевы пазносілі месты.
Паказаў сваё аблічча голад, але маўчыць людзкі дух.
Ідзеце, навучайце, працягнеце руку дапамогі!

30. Шчасьце шукайце – дух узвышайце.
Вера ў сябе й пошукі праўды ўтвараюць гармонію.

31. Я паказаў вам шчасьце каханьня да Айчыны сьвету.
Зьведаеце каханьне да люду.
Думаю – паклікаў вас дзеля нябеснай радасьці духу.
Не аддаляйцеся ад шляху ўзыходу.

32. Коштам  радасьці – ачышчайце шлях.
Здолейце, вучні, выстаяць супраць раздражнёнасьці.
Мой вучань мусіць мець вока добрае.
Трэба ў падвойнае шкло глядзець на ўсё добрае
 і ў дзесяцікроць памяншаць зьявы
 недасканаласьці, іначай застанецеся гэткімі ж, якімі былі.

33. Кахайце адно аднаго.
Я выпраўлю вам чыстыя думкі.
Я ўмацую вашае прагненьне ўдасканальвацца.
Мне даспадобы неслухаў у жыцьці лекаваць каханьнем.
Рамакрышна кажа:
“Кахай, а рэшта дакладзецца”.

Мне даспадобы навучаць на зьявах, якія паказваюць складанасьць
 жыцьця.

34. Я стаю на варце шчасьця вашага.
Я паказваю моц цемры ейным пераможцам.
Людзі ня чуюць шчасьця свайго.
Палымяны Вястун прынёс вам
 палаш мужнасьці.
Разумейце дадзеныя вехі і ведайце ваш шлях.
Трэба йсьці сваім шляхам.

35. Ловячы сэрцы палымяныя, прынесяцё дар Нам.
Урачыстасьць абвесьціць моц гармоніі чыстым
 духам.
Навучаць з усьмешкаю, ствараць урачыста,
 вуха – песьні насьцеж.

Кроў сэрца я чыстым каханьнем захаваю!
Авалоданьне сабою выправі, Валадару!

36. Вучні не павінны выдаваць пасьпешных меркаваньняў.
Мне даспадобы зьявы запальваньня духу, загартоўвайся.
Дух пульсуе, паўночнае зьзяньне грае,
 прырода поўніцца жыцьцём, Боская Літасьць ва ўсім.
Дазволю Тарчы яра палымнець над вамі.

Менш чытай, але разважай.

37. Кахайце Мяне – моц вашая расьце каханьнем.
Тарча Мая – каханьне.
Усьмешка Мая асьветліць вас.
Шануйце прыкметы Сьвятых Гутарак.

38. Духовая культура будуецца Намі й вамі.
Умацуецца Праўда сьвету.
Сьвятло пратне цемру – сьведчу.
Духовага Сьвету адчынена Брама.

39. У нас моц існуе будаваць ды зьнішчаць перашкоды.
Думка – бліскавіца.

40. Асьцерагайцеся забывацца клікаць Настаўніка.
Стан здароўя пераважае над Вечным.
Гадаваць крыўду – дрэнны сад.
Здольнасьць атрымаць перамогу паказвае мацунак духу.

41. Я ваш слых аздоблю песьняй Праўды.
Працуйце – не наракайце.
Я вам даў шляхі духу.

Мне даспадобы выправіць Настаўніка ў вадказ на пошукі духу.
Іншы сьвет у днёх Маіх мусіць у днёх вашых радасьць запаліць.

42. Каханьне будуе храмы.
Духовае праўдзівае выпраўлю вам каханьне.

43. Здолейце наблізіцца чыстым сэрцам да Нашых Вышыняў.
Промень Наш сыдзе на вас у сьцьверджаньні вашага жыцьця кожнага дню.
Вы прыносіце камень для Майго недабудаванага Храму.
Навучайце іншых Майму Слову, і Мудрасьць расквітнее, і Храм Новы ўзвысіцца.
Ня думайце, я ня ёсьць чарадзей, але ўзводжу лесьвіцай прыўкраснаю, у снох толькі паказанаю.

Водарным павевам з гораў Тыбэту Мы нясем вестку людзтву пра новую рэлігію Духу Чыстага.
Яна йдзе – і вы, хто сабраліся дзеля асьветы, несяце камень каштоўны.
Дадзена вам дзіва стварэньня гармоніі жыцьця, яно запавет новы абвесьціць сьвету.

44. Дасьціпнымі будзьце – губляецца шмат часу.
Угадваць сэнс Маіх словаў – добрае практыкаваньне лоўчым дзеля разуменьня Маіх наказаў.

45. Дзіва промню красы ўваздабленьні жыцьця ўздыме люд.
Нясі свой каганец.
Асьвятлі аздабленьне Майго Храму.
Навучай шчасьцю красы.
Навучай шчасьцю ведаў.
Навучай шчасьцю каханьня.
Навучай шчасьцю зьліцьця з Богам.
Я дам іртуць бадзёрасьці ды рухавасьці.
Хадзеце, не сумнявайцеся, не аглядвайцеся, не паддавайцеся страху.

46. Лягчэй хадзі, радуйся больш, хадзеце горным шляхам.

47. Усьмешка Мая сочыць за вамі, Мае сябры.
Дух хвалюецца, але будзьце мудрымі.
Найлепшыя веды ў сэрцы.

48. Мой вучню, пакліканы тройчы,
нясі Слова Маё ў творах шчасьлівых
на радасьць сэрцаў сьвету.
Лоўчы, хадзі пераможцам.

49. Каханьне ды імкненьне твораць дзівы ў жыцьці.
Абуджаем энэргію вашую на новыя думкі, патрэбныя дзеля ператварэньня й дзеяньня думкі ў жыцьцё.

Вам патрэбныя сродкі дзеля стварэньня новага жыцьця –
Выпраўляем думкі, іх абвастрайце, але ня рушце
кармы.

50. Лоўчы, дух твой непарушны, зьдзяйсьняй адчуваньні
твае – і пераможаш цемру.

Думаю, у вас зьявіцца моц Айчыне дапамагчы
ў радасьці Духу Разуменьня.
Айчына прыме дар сэрца М.˙

Вучні, нясеце каханьне й веды.
Мацунак усьмешка нясе.

51. Сьцеражыся атрутных вібрацыяў, імкніся
да будучыні і не патрапляпляй пад уплыў
цяпершчыны.

Кіруйцеся простымі рашэньнямі, покі ўзыдзеце
на гару.

Моц відзежаў патрабуе добрых умоваў
сярод праны.
Дзеі Хрыстусавы адбываліся сярод прыроды,
доўга не заставаўся ў горадзе.

52. Я навучаю вас складанасьці простай навукі
Рамакрышны.

Мы ўсе разам творым Волю Творцы.

Магутнасьць вашая расьце пранаю.

53. Мы маем гэтулькі дзівосаў паказаць вам –
зьяву шчасьлівага ўзыходжаньня на горы
Тыбэту.

Думайце ды імкнецеся, ператварайце паветраныя палацы
ў цьвердзі дасягненьня.
Адпачні духам, не стамляйся кнігамі,
і каханьне памкнецца плыньню зіхоткай,
выяўляючы дзівосы красак М.˙

54. Я навучаў вас шчасьлівым ведам, патаемнай

навуцы Тыбэту.
Сябры, глядзеце наперад, забудзьцеся на мінулае.
Думайце пра будучую пабудову, і зьяўлюся
для парады.
Дапамажы людзям навукаю духу і глядзі наперад.

55. Утрымай іншых у ідэі М.·.

56. Воя Мая, мужна йдзеце.
Росту духу патрэбен штуршок.
Дасягнуць можа кожны.
Дух пакліканы ня вернецца.

57. Добра змагаецеся – перамога за вамі, сьпяшацца ня трэба, нават каваць жалеза патрэбен час.
Жалеза гартуецца ў зімнай вадзе,
каб зазьзяць у полымі.

58. Навучэцеся абвострыць вуха спакоем, памкнуўшы дух да Ўсемагутнага, Дзівоснага Вока Сусьвету.

Сябры, у Нас гатовыя адказы, але няхай цячэ
рака Кармы – гаць часта пагражае
паводкаю.

Імкніся да згоды духу.
Чыстым памкненьнем будуй гармонію духу,
каб Дабрадзей змог увайсьці.
Працінае сьвятло аўру – захоўвай яе.

59. Крот рые нару.
Арол ляціць вышэй за горы.
Крату цёпла ў нары.
Арлу сьцюдзёна на золку.
Ды ляцеце да шчасьця, родныя Мае.

60. У працы не заўважаеш небясьпекі.
Дазвольце расьці сэрцу вашаму і расплюшчыце вочы
вашыя.

61. Праца ёсьць закладам умалоту.
Кожны з вас мусіць пераадолець зямныя
 церні,
Выявеце моц духу, набліжайцеся.
Адчынеце сэрца дабратою.

Падабаецца Настаўніку кожнае чыстае шуканьне
 дзеля Найвышэйшых Ведаў.
Дух Розуму дае павучаньне шукальнікам Праўды.
Дастаткова ведаць шлях Духу Разуменьня,
 астатняе дакладзецца.

62. Я выпрабоўваю розныя душы.
Дух Мой – тарча вам.

63. Памкнеце сілы на асьвету люду.
Кахайце Мяне – шчасьце прыйдзе як ранішняя заранка.

Пасьцінаю шкоднікаў.
Асьцярожна ўзьнясеце скарб Храму
 на Гару Морыі.
Настаўнік шле вам Ухваленьне.

Вучэцеся разумець Мяне.
Спакойнымі будзьце ў веры. Дапамагу шукальнікам.

64. Дзяцел мудра длубае дрэва. Мяркую –
 бярэце прыклад.
Тарча Мая абароніць вас, Мае родныя.

65. Шчасьце да вас ідзе праз Тарчу М.·.
Будзь эолавай арфаю для павеваў М.·.
Цераз каханьне прыйдзеш да Мяне.
Я духу магутнасьць дубу дам.

66. Здолей кахаць, калі ўзыходзіш.
Толькі потым зразумееце, як мякка й ласкава
 імкнуся прысьпешыць ваш шлях
 да прызначанага вам акрэсу чыннасьці.

67. Дам вам моц даваць радасьць людзям.
Дам вам моц навучаць людзей розум да Бога
накіроўваць.
Навучайце зьявам М.·.
Навучайце, Я дапамагу.

68. Вашая гармонія дае найлепшыя наступствы,
якія ёсьць у Нас у пашане.
Дзеля важных даручэньняў Мы зьядноўваем
гарманічных людзей – іхняя батарэя ёсьць асабліва моцнаю.

69. Думайце пра зьяву пачуцьця каханьня да Мяне.
Дзеля Маёй Справы ня трэба млявасьці –
дасланае Мною бяры неадкладна.

70. Сяброў не ўнікай, можаш прасьвятліць
Маім Імем цёмных людзей.
Будзьце сьмялейшымі, будзьце вучнямі М.·.
Навучайце кахаць духовы сьвет.
Сейце мудрасьць, дасланую вам.

71. Смуга хутка разьвеецца, усьмешка слонца зазьзяе
на вашым шляху.
Навучай словам Маім – выпраўлю слухачоў.
Адораныя мусяць адорваць.
Ведайце – вяду найкаротшым шляхам да ведаў,
працы ды шчасьця.

Побач праходжу, ды не заўважаюць Мяне.

72. Хрыстусаў Дух павявае праз пустэльні жыцьця.
Нібы руднік імкнецца празь цьвердзі скалаў.
Зьзяе мірыядамі Млечнага Шляху
ды ўзносіцца ў сьцябліне кожнае краскі.

73. Сьветламу Храму сходы будуем,
Скалы Хрыстусу прыносім.
Замацуй Свой Пасад, Валадару, у садзе нашым.
Скалы вялікія для саду, сходы цяжкія
для красак ды сьцяблінаў.

Ён на воблаку да нас падыходзіць.
На траве з намі Ён сядзе.
Шчасьце аддаць Табе, Валадару, сад мой.
Не сыдзі, дадзены Валадару!
Не пакінь Ты нашага саду!
Зоркамі шлях Твой акрашаны.
Я знайду па іх сьлед Твой,
За Табою пайду, Мой Валадару!
Калі сонца зямное зьмяце Твае зорныя знакі,
Паклічу буры ды хвалі, няхай заслоняць сонца зямное!
Што ў ім? – калі яно зьмяло Твае зорныя знакі!

74. Мне даспадобы ўсьмешка будучаму лёсу без сумневу.
Я дам моц ствараць дабро не грашыма, але ў духу.
Доля вашая жудасная, ды вялікая бездань шчасьця вашага пры будучай перамозе духу.
Праганеце гнеў – палегчыце шлях да Нас.

75. Ня гнеў стварае, ды гарачае парываньне.
Будзьце непахіснымі; нішчыць здароўе ілюзія вашая, але калі верыце Мне, дык ведайце, што атуленыя клопатам ды абаронаю М.·.
М.·. бачыць, як вам цяжка, але адольваньне страмніны заўжды цяжкое.
Нядолю зьнiштожыць – моц бярэ,
але хвала перашкодам!
Не зьнявервайцеся, часта ўжо цераз плынь пераходзілі.

76. Ня варта, ледзьве Настаўнік скажа прыкрае, – хваляваццa: вучань радуецца кожнай вестцы.
Думай пра духовае кіраўніцтва аднаго Настаўніка.

Дух ваш рынуўся – ля Брамы прыйму вас,
рукі вашыя подыхам сагрэю
і ўзьвяду па шляху горным да Храму.
Кахайце Мяне, і падвоіце моц.

Дух ваш узносіць цела ад зямлі.
Трэба шэрагам навукаў чыстых радавацца
ўзыходжаньню.

77. Няма каханьня вышэй за каханьне.

78. Выпадковага анічога не бывае.
Моц Мая з вамі.

79. Аблічча Мы зьмяняем.
Моц набудзеш ты вераю.

80. М.·. – вашая ўсьмешка, вашае дабро, і цьвердзь,
і веды.

81. Што даступна вашаму арганізму –
усё атрымліваецце.
Нават знакі Найвышэйшага Даверу – Нашыя стрэлы.
У бітве не заўжды стрэлы далятаюць.
Здолей узмоцніць стрэлы.

Духовы бок заўжды пакутуе, калі ў нас
зашмат рэчаў.
Ты йдзеш угору – хадзі тым шляхам адданасьці
й каханьня.

82. Кахайце Настаўніка духовага.
Плянэта твая – несьці сьвятло нязгаснае сэрцам,
якія гараць.
За шчасьце прымай – змагацца за Маю Справу.
Нарабіць бяды лёгка, ты мудра будуй.
Здолець дапамагчы – шчасьце.

83. Здолей паказаць зьяву шчасьця –
твар без асуджэньня.

84. Я вас навучаю пазнаваць людзей.

Кожнае Маё слова ды кароткі наказ
у жыцьці мае значэньне.

85. Я нораву вашаму ўсьміхаюся,
але хвалю за адданасьць Мне.
Шаную вашае закаханае стаўленьне сярод віхуры жыцьця.

86. Чыстая зьява супакою духу
выпрабоўваецца дробязямі жыцьця.
Добрае суцеха дадзена вам ва ўсьведамленьні шчасьця Нашае абароны на добрых шляхох.
Я вам выправіў Тарчу – здолейце М.·. засланіць, як Я вас ахоўваю.

87. Чужую душу адчуйце, прыкладзеце працу,
ажыцьцявеце разуменьне Тарчы Маёй.
Скажэце – багата цудаў на сьвеце, і чыстае ярае памкненьне дае перамогу.

88. Непадрыхтаванасьць ня ёсьць злачынствам.
Любі няшчасных, шкадуй малых.

89. Дадзены шчасьлівы добры Водзца
кожнаму.
Здолей зьвярнуцца ўсёй моцаю духу толькі да Яго, іначай дзьверы застануцца расчыненымі і токі зблытаюцца.
Клічце добрага Водзцу не пытаньнем, ды сьцьверджаньнем.
Калі Я выпраўлю вестку цераз вашага Водзцу – ток будзе наўпроставы.
Ня слухайце тых, хто прыходзяць падчас абыякавасьці вашай.
Вакно, расчыненае ў цемру, прыносіць начныя галасы, але кліч каханьня прынясе адказ Каханага.
Кахайце Тых, Хто Абралі вас.
Усьведамце сувязь з Водзцам, і аніштo недасканалае не прасунецца.

Кахайце і зважайце і сьцінайце ўсё злое.
Добрую Вестку дасылаю.

90. Усьміхайся, калі можаш даць тым,

з кім страчаўся даўней.
Шчасьце прыйдзе, калі скончацца старыя рахункі.

91. Вастры стрэлы.
Калі не даспадобы сымбаль стралы, дык абяры сымбаль вестуна-голуба.
Страла – ня думка, ды энэргія.
Як у электрычнасьці, трэба сабраць энэргію на лязо.
Найлацьвейшы досьлед уяўленьня скіраванага прадмету.
Можаш узяць вобраз электрычнай агнічкі.
Энэргія стварае прагу творчасьці ў тых, да каго выпраўляеш.

92. Усе ў сьвеце адлюстраваньні Божыя, і ў плямінах сьвятла грае Боская энэргія.
Хай будзе сьветла вам!

93. Бунт духу крышыць турэмныя вязьніцы.

Мяркую – можаце навучаць чытаць кнігу мудрасьці, разьлітай у зьявах жыцьця.
Дзіва Нашага ўдзелу ў зьявах жыцьця не ўсьлізьне ад вас.
Асудзі ўлік плягаў духу ды зьдзейсьні ўзыходжаньне ў вадчуваньні вольнасьці духу.
Умацуйся ў сьведамасьці шчасьця жыцьця, і нітка шляху не перарвецца.

94. Гімн Творцу ня толькі ў храме ўзносіцца, але воск сьвечкі праліваецца ў працы жыцьця.

95. Я вас паклікаў да вялікае справы.
Настаўнік шчасьце даверыў вам.
Патрэбная моц пайсьці за Мною дадзена вам:
Стрэлы, тарчы, палашы ў вас, і голаў ахіну Маім Уборам.
Змагайцеся ў Імя Маё, і няхай будзе з вамі каханьне.
Спраўдзіцца запаветнае ў належны час.
Трымайце каганцы запаленымі – Я навучаю.

96. Прад табою Сьпеў Паньскі, і не сумуй па красках цясьніны,
калі ўзыдзеш да вяршыняў.
Мне даспадобы памкненьне вашае да творчасьці жыцьця.
Дзіва ствараецца сярод жыцьця, сярод дзеяў, сярод напружанай гармоніі.
Начныя відзежы ажываюць ня ў казцы, ды ў шчасных зьявах гутарак са шляхамі Сьветлых.
Настаўнік блізкі да вас у кожную хвіліну вашае творчасьці.
Спасьцігайце ды навучайце.

97. Чыстыя зьявы твораць цуд.
Здолейце кахаць Маю Справу.
Духовая батарэя мусіць дзеяць гарманічна, і тады Мае токі ідуць безупынку.
Пры зьмене настрою ток не перапыняецца, але гайданьні аўры чыняць зьмешаныя хвалі.
Сталасьць аўры вядзе да гармоніі.

Полымя сьвечкі сьвеціць для ўсіх, але пад кропляю гневу чадзіць і мусіць быць папраўлена.
Палай ясна – М.·. з вамі заўжды.

98. Веды дапамогуць унікнуць небясьпекі.
Веданьне Зьяваў Маіх падвоіць моц.
Апостал не лякаецца.

99. Уведаеш шчасьце дадзенае ў запаветны час.
Туман сьцелецца ля падножжа гары, але вяршыня адчувае заўжды промень слонца.
Пад промнем слонца туман растае, а ты ведаеш Маё Каханьне.

100. Настаўнік з вамі радуецца шчасьцю чыннасьці ў жыцьці, калі яна скіравана на дабро.

Раней як у трыццаць гадоў патрэбныя асяродкі
не прачынаюцца.
Звычайна патрэбныя пятнаццаць гадоў дзеля праяваў
наступстваў
полымя сьвятла.
Зародкі сьвятла зьяўляюцца раней.

101. Асьцярожнасьць развагаў толькі дапаможа
Маёй Справе.
Пастаўцеся да чужых навукаў з разуменьнем
ды памяркоўнасьцю.
Зьявы жыцьця пераканаюць там, дзе словы ёсьць бясьсільнымі.
Знайдзеце нешматлікіх абраных і асьцярожна адхілеце
зласьлівасьць негатовых.

102. Калі забясьпечаны ўмовы шчасьлівага зямнога
жыцьця, дух ня ўвойдзе да Храму прызначанага.
Шчасьце стукаецца ў сэрцы, ды цяжка ўвайсьці
Добрай Вестцы.
Шчасьце сышло ад тых шматлікіх, хто выгнаў яго.
Зьявы жыцьця супастаўляйце.
Я Дабро выпраўляю.

103. Прымайце выпадак за наканаваньне.
Зьява выпадку прадугледжана Намі.
Нібыта выпадковасьць для вас – старонка будучыні.
Можаце спакойна й бадзёра працаваць.

104. Настаўнік хоча паказаць, колькі бітваў
адбываецца ля сьценаў Белай Ложы.
Гадзіна адчуваньня Космасу праб’е.
Дзіва ствараецца як запаленая лямпа,
і ніхто не ўяўляе сабе цёмны пакой.

Бог ведае ўсе сусьветы.
Кахай ды стварай, і ўся радасьць прыйдзе.

105. М.·. звыклы змагацца, і дзеці Мае
мусяць быць мудрымі ў бітве.
Аб’яднаньне народаў прыйдзе ў бітве.

Мне даспадобы праявы моцы духу.
Цяпер сьцінайцеся мудра, ворагі Нашыя – вашыя ворагі.
Выпраўляю каханьне й моц.

106. Дужа змагайцеся.
Кароткая навука пра людзей і доўгае ўведваньне.

І заслона разьдзіраецца і нечаканае ўваходзіць.
Розум не разумее сэрца, ды яно ведае.
Не кажу аб рэчах сёньняшняга дню.

Адчуваньне падзеяў поўніць дух трывогаю – токі дрыжаць,
І падзеі сьвету нітуюцца з чалавечым жыцьцём, і струны гучаць складана.
Адчуваньне Зьяваў Творцы ня павінна бянтэжыць вояў, але мусіць акрыляць.
Куйце стрэлы. Выпраўляю каханьне.

107. Мае дзеці, прыйдуць да вас, і напішуць да вас, і пакажуць вам, і прыгнобяць вас, і ўзьвялічаць вас,
Але для вас мільгануць гэтыя дарожныя знакі, і абутак ваш апратаецца ў сьнягох гораў.
Дні вашыя Настаўнік акрасіць зялёным ляўрам і дасьць Настаўнікавы гаючыя водары.

108. Шчасьлівыя вы, калі прымаеце напады супраціўных сілаў, якія сьведчаць пра вашую бітву за Мяне.

Не лякайся бязьдзеяньня, паветра напружанае, і чырвоны крыж каханьня пакрые поле бітвы вашае, і ўзвысіцца песьня ладу.

109. Дзіва дзеецца ў жыцьці, расплюшчыце вочы – убачыце.

110. Усё стане на мейсца, і шмат чаго спраўдзіцца, і дамо патрэбныя знакі.

Промень слонца не заўсёды на воку, але слонца заўсёды саграе зямлю.

Вы сагрэтыя, а сагрэты дух не ўяўляе сабе сьцюжы душы.

111. Сыдуць няздатныя – мудра вырашаецца плян разьвіцьця новае расы.

112. Рука Настаўніка давала моц праменьня.
Здолей усьведаміць зьзяньне гаючае.
М.·. поўніць арганізм моцай спакою.
І калі спакой ладу прыходзіць, тады моц стрэлаў абвастраецца.

113. Сувора пачынаеце сьветлую справу,
але сьвятло Харугвы Маёй натхніць вас
і накіруе на шлях зьдзяйсьненьня Праўды Маёй.
Здолейце пачаць, Настаўнік здольны выправіць вам Тарчу.
Той Я чую посьпех, які суправаджае выкананьне Волі Маёй.
І пярсьцёнкам Салямонавым сьведчу і пазначаю.
Я даў, Я даю, Я дам.
Не па нікчэмнасьці, ды па гонары чынеце стараньне.

114. Я кажу – чувайце.
Моц ды разуменьне зьяднайце.

Мой пярсьцёнак замацуе шчасьце тых, хто ажыцьцявіў Навуку Маю.

115. Сярод найвышэйшых вібрацыяў перамяняецца цела.
Цела лякаецца духу – нявольнік лякаецца гаспадара.

116. Настаўнік пакутаваў за найлепшыя ідэі.
Людзі будуць працівіцца на шляху да Сьвятла,
Цемра мілей кратоваму воку.

Каханьне ды веды ўсё перамогуць.
Дух ваш пойдзе высока, і непаразуменьні мільгануць

як тэлеграфныя слупы.
Усьміхнецеся цяжару шляху вашага.
Запэўніваю – пераможаце.

117. Дзеці Мае, вы не заўважаеце, якая бітва чыніцца наўкола.
Цёмныя сілы таемна й наяве змагаюцца.
Дух ваш, як гаць, зрываюць хвалі;
Ды не лякайся, сэрца, ты пераможаш!
Сэрца расьце, і веды назапашваюцца.

118. Дзіва ля вас, але ў тлуме бітвы ня чуеце.
Шляхі Боскія неспазнаныя ў разнастайнасьці падыходаў для перадачы Духу, і былінка можа пераказаць скрыжаль Запавету.

Карабель страчае розныя хвалі ды ўсё-ткі даплывае да прызначэньня.
Чыстая справа расьце моцным падземным карэньнем.
Тарча ня ёсьць над дзьвярыма, ды прынясуць Харугву Маю сэрцы тых, хто прыйшлі.

Не лякайцеся дзідаў, і не пужайцеся скарпіёнаў – атрута ня ўвойдзе ў целы вашыя.

Я – флейта, якая склікае ранішні статак.
Я – крыніца, якая акрапляе вусны жальбы.
Я – цьвердзь Храмнага слупу.
Прыйдзеце, хто ня сьпіць.

119. Мае дзеці, навука жыцьця, накіраваная Мною, – найкаротшы шлях для дасягненьня стану адчуваньня Космасу.
Трэба зразумець перашкоды недасканаласьці.
Толькі тады доктар можа лекаваць, калі памеры хваробы ведамыя.
Велькі мільянэр часта сьляпы ў бачаньні сьвету.
Зрэдку занятыя людзі зварочваюць вока да будучыні.

120. У гісторыі людзтва йдзе велькая бітва
зрушэньня расы,
І ў момант бітвы кожны пакліканы ваяр нясе
сваю зброю.
Справа Боская вядзе народы шляхам бітвы.
І вы, воя Мая, засланецеся Тарчою Волі
Паньскай, і Сьпеў Паньскі будзе з вамі.

Перад патопам людзі й жаніліся, і балявалі,
і гандлявалі, ды Ной ужо выбіраў
лепшыя дубы дзеля свайго каўчэгу.

121. Дадзеную суворую школу з усьмешкаю
прымеце.

122. Уночы лацьвей хадзіць сьцежкаю, даверыўшыся
Павадыру, чым шукаць шлях у цемры.
Мае дзеці, атрутныя часы мінуцца,
але вы ацалелымі ўвойдзеце новым шляхам
у Новы Сьвет.

123. Увесь сьвет – Цела Божае, і воля Нашая
нясе загад найлепшага зьдзяйсьненьня Волі
Ўсемагутнага.
Слуга слугуе Пану, і Ласкавы Гаспадар дапушчае нас
знайсьці найлепшыя строі да сьвята Сьвятла.
Па стараньні нашым атрымліваем колер духовай
вопраткі.
І Настаўнік Найвышэйшы, што Крыж Прыняў,
сьведчыць пра вагонь нашага зьмёртвыхпаўстаньня
ля падножжа лесьвіцы да Храму ўведаньня
Хвалы Боскай.

124. Тваё шчасьце ў вадкрыцьці Боскай
энэргіі ў карэньні Сусьвету.
Пакінь іншым пералічваць лісьце
манга – смакуй плады.
Ведай карэньне й плады, і аддай іншым лісьце,
яно зьмяняецца кажнагод.

125. Парадак Паньскі ёсьць па-за звычаем людзтва.

Зноў забыліся на бітву Божую – аніхто не сядзіць
у школе падчас варожага наступу.
Цяпер час болей складаны, чым думаеце.
Ніколі варожасьць не была такой моцнай.
Але час настаў.
Варожыя сілы не падпарадкоўваюцца наканаванасьці.
Старая раса нішчыць абраных пераемнікаў,
і Мы павінны засьцерагчы іх.
Наканаванасьць можа быць палегчана, і бітва можа быць
скончана хутчэй.

126. Чыста й сувора пачнеце Справу Маю.
Памятайце пра цяжкі пачатак найлепшых справаў.

Храм цяпер замкнёны, і малітва забытая ў бітве,
але краскі духу віюцца па струхлелых сьценах.
Анішто ня спыніць Рукі Творцы
Новай прыступкі сьвету.
Скажу вам: Тарча М.·. усеяна стрэламі,
але да Сьвята Духу зьбярэмся ў перамозе.
Думайце пра перамогу. Адкіньце дачасу лагодныя
думкі, чувайце, ваяры на варце!
Ведаю, ты гатовая ружамі акрасіць шлях
Маёй школы, ды час маразяны.
Усё будзе добра.

127. Не паказваеце страху – добры прыклад
паказваеце навакольным людзям.
Навучаю вас сьветла страчаць праявы досьведу.
Пая�сьню вам – Я наканаваньне прысьпешваю і на шляху навучаю
распазнаваць абліччы.
Мацунак расьце з назіраньняў над праявамі чужой душы.
Дойдзеце да запаветнага, куды Хрыстус паклікаў.

128. Выявеце імкненьне да будучыні, і шматлікія сілы
міжволі паслугуюць вам.
Зь нечаканых інструмэнтаў складаецца
аркестар, але дзея скончана – і гукі адлятаюць

у вакно.

Лепш даражэй заплаціць ды хутчэй уведаць шлях
наканаваны.
Вочы ўбачаць замест церняў сад, узгадаваны
каханьнем.
Здані думак чуе сэрца, але яно ведае
праўду.

129. І каштоўная навука М.·., што вядзе сьцежкаю
жыцьця.
Паўсюль мільгае род людзей цёмных,
зрэдку сьвеціць вагонь духу.
Адвечная ніва амаль не ўзараная,
колькі ж разьяднаньня ды раздражненьня!
Келіхі Анёлаў не пужаюць людзей.
Але калі ў цягніку людзі ёсьць прабеглымі
вандроўнікамі, дык якое ж хуткабежнае зямное жыцьцё
для Сусьвету!

130. Шчасьце, паказанае на Вяршынях Нябесных,
прыносіць мужнасьць батальёну ваяроў
за Праўду.
Іншы раз Праўда зацемнена сымбалямі.
Розум ня можа асягнуць параўнаньняў жыцьця,
і трэба формамі побытавымі пая□сьніць.
Чалавек мае патрэбу ў знаёмых абліччах,
і гэтаю прывіднаю дарогаю ўзводзіцца дух
у праўдзівы дом свой.

131. Рука Мая адводзіць вашыя небясьпекі,
наколькі дазваляе наканаваньне.
Зямля перашкаджае віду гораў, ды ўсё-ткі дойдзем.

132. Кожнае добрае памкненьне дапамагае справе.
Варта выпраўляць стрэлы альбо празь Мяне
альбо непасрэдна, але мусіць быць добры
пакунак.
Льга выпраўляць нават разбойніку.
Можаце дзеля Маёй Справы патрабаваць, адно бяз гневу,
але выпраўляць стваральную моц дабра.
Гнеў спараджае гнеў, але Мае дзеці перамагаюць

пунсовае полымя сінім промнем.
Сіні промень гасіць полымя.
Можаце ўзьвесьці храм энэргіяй сіняга промню,
і пунсоваю хмараю зьнішчыце найлепшыя парасткі ў вас.

133. У М.·. шмат вежаў ды варты
па схілах Гімалаяў.
Папраўдзе аніхто без спадарожнікаў не міне
сьнегавой варты.
Волаты сярод ільдоў сочаць за ракою сьвету.
Ільды чыстым вагнём квітнеюць, і паветра насычана
азонам.

134. Чуць кліч і ў падзеньні пялёстку ружы.
Жыцьцё поўнае клічу, вагонь прыводзіць да вяршыняў
Таямніцаў.
135. Чыстыя сьлёзы прыносяць ружы М.·.
Дабро не іржавее.

136. Рука Мая нясе вам дапамогу –
дзіва Каханьня нясу.
У М.·. шмат знакаў у праявах клопату.

137. Рукі Мае поўныя дабрыні,
але працідзеяньне мусіць быць спынена.
Пакажу моц Навукі на абмежаваных розумах.

138. Даў цуд гаючага паветра,
жах жыцьця растае ў чыстых промнях заходу.
Сьцьвердзеце супакой – сьцьвердзеце мудрасьць.
М.·. слухае, як мучаць вас смутныя цені,
але тыя, хто прыйдуць сьмяяцца – маліцца
будуць.

139. Мудрэй даць навучацца на зьявах жыцьця.
Пакажу шмат у жыцьці, толькі заўважай.
Уяўленьне нішто ў параўнаньні з жыцьцём.

140. Аніштo не павінна замінаць вам уведваць зьявы
Боскай Мудрасьці.
Розныя справы патрабуюць розных інструмэнтаў.

141. Краскі М.·. ня ёсьць прыдатнымі для шматлікіх садоў,
ды яны красуюць нават на крыгах.
Як гаючыя зёлкі, Маё лісьце дапаможа шматлікім ранам.

142. Даю моц чуць ды бачыць.
Найважнейшае – якасьць паветра ды яснасьць духу.

143. Хутка разьвязваюцца вузлы жыцьця.

144. Няхай шчасны лоўчы пакажа бязьлітасным

катам прыклад сьмеласьці.
Добра паказаць людзям суворае праўдзівае меркаваньне пра суворую праўдзівую і глыбокую творчасьць.
Кепска мірыцца з пустой вонкавасьцю ды тлумам гармідара.
Сьведасьць ясьнее, і досьвед жыцьця ўзмацняецца.

145. Робіце пачатак Маіх выступаў на чыстым полі.
Я час прызначу для зьдзяйсьненьня кожнага чыстага зачыну.
Нястача не пашкодзіць вачэй вашых.
Уклад людзкі не парушыць ладу вашага.
Прымайце за шчасьце несьці каганец сярод цёмных ды злых.
У Нас пастанавёна даць шляхі цьвічэньня лютых сэрцаў, злагодзіць лучнасьцю красы.
Але жалеза цёмнага духу сьцюдзёней і цьвярдзей за словы шчасьця.
Рука Праўды толькі працаю разбурае краты цямніцы.
Звысі ільюцца словы Праўды,
Ды людзі вынайшлі парасоны і схаваліся ад навальніцы хмараў Боскіх.
Ды лівень сухіх сэрцаў дасягне.

Асьляпляем праявы злосьці, і бліскавіцаю асьвятляем шлях праўдзівы.
Дамо веданьне сэрца пасланага.
Усумніцца можа толькі сьляпы –
Зьбярэце цярпеньне дзеля прыступак будучыні.

146. Я вам шчасьце даю, прымеце яго
і навучэцеся разумець напісанае.

Усё, што льга прысьпешыць без пагібелі,
будзе прысьпешана.
Жыцьцё разьзяўляе пашчу, але дух непахісны.
Можаце спакойна пачаць новы год,
поўны падзеяў.
Хвалі духу пеняцца.
Выпраўляю Ўхваленьне.

147. Палова чалавечага жыцьця праходзіць
у варунках астральнага сьвету,
ды людзі ня памятаюць.
Людзі імкнуцца да ведаў, але не заўважаюць іх.
Вы агорнутыя ведамі мінуўшчыны й будучыні.
Шчасьце таму, хто спасьцігне веды будучыні
і непаўторнасьць абрысаў.
Каханьне пакажа вам мяжу ўсталяваньня Новага жыцьця.
Цуд уведаньня будучыні зьявіцца без гарматаў,
Але звон скліча заблуканых у лесе
вандроўнікаў.

148. Ня трэба засмучацца, вы папярэджаныя
пра бітву, нават імя М.·. выклікае
процідзеяньне.

Ня дзіва, калі цёмныя спрабуюць параніць
Маіх ваяроў, ды Нябачны Водзца
чувае.
Вашыя парываньні зразумелыя: жаўнеры ў вакопах наракаюць, бо ня бачаць начальніка, але ён злучаны тэлефонам і біноклем.

Прымеце бітву, Маё Імя старайцеся абараніць.
Малому рык страшны, велькаму зубы толькі сьмешныя.

149. Дамо пацьверджаньне Нашага існаваньня.
Дамо чыстую навуку шчаснай хады жыцьця.
Не надумляйцеся – па засваеньні досьведаў Навукі пойдзеце шырокім шляхам.
Дабро ствараў не парываньнем, ды памкненьнем.
Трэба працаваць чыстым духам, астатняе прыйдзе без наўмысных думак.

150. Прамень расьсейвае хмары – шлях новы выпраўлены пераможцу.

151. Паведамленьні лацьвей даходзяць па сухім шляху.
Усьмешка патрэбная – плач замінае току.
Льга карыстацца некаторымі залозамі, покі яны, удражнёныя, ня сочацца.
Сьвет хмараю сьлёзаў перапыняе патрэбныя токі.

152. Наш Храм узводзіцца сярод незьлічоных варункаў жыцьця.
Даем бітву, і кожны камень паліты потам працы.
Памятайце пра школу ды ўяўляйце сабе Нашую вечную Пабудову.

Самотна стаіць вяршыня – пачуцьцё самоты не пакідае яе.
Калі гэтае пачуцьцё ведама вам – шчасьце вам.
Вы ёсьць ужо на шляху да Нас, але самотная вяршыня жывіць сьнягамі рэкі долаў і гадуе ўраджай палёў.
Слонца выпраўляе першы промень вяршыні.
І месяц пазірае ў лядовішчы.
І аніхто ня ведае нетраў гарачых крыніцаў.
І ўсьміхаюцца гарачай вільгаці з-пад сьнягоў.
Сьвятое ўсьведамленьне самоты няхай не пужае,

ды акрыліць вас каханьнем.

Я дзею каханьнем ды бліскавіцаю.
Вусны стваральныя могуць забараняць.
Адчынена навука, небясьпечна адступаць.
Не патрэбны радзюгі.

153. Усьміхайцеся. Даю радасьць
сутнасьць Хрыстусавай Навукі зьдзяйсьняць,
Радасьць велічы сьвету,
Радасьць укладзенай працы,
Радасьць сьветлае ўтомы.

154. Тарчу Маю можаце несьці.
Хвала Паньская ёсьць над усёю чыстай задумаю.

155. З усходу й заходу пойдуць Мае вoi,
І пазнаю сярод пераможцаў абраных Мною.
І пазнаеце пастаўленых Мною.
Зёлкі растуць па Волі Боскай.
Чалавечы дух ёсьць вышэйшым за зёлкі, і ягонае даручэньне
пераўзыходзіць думу пра шчасьце ў Навуцы Нашай.

156. Стварылі вы справу, што й багацеям
не па сіле.
Ды прынесеную чыстую афяру Бог вяртае
тым, хто прынесьлі Ісака па чыстай веры,
І Гара Морыі, што прыняла афяру,
захавае скарб сэрца.
Не малую справу паднялі вы,
І паклалі здабытак свой на дадзены
афярнік, не выхваляючыся і ня ўзводзячы
імкненьня ўласнага.
Кахаю Праўду і хіба магу змаўчаць
пра тых, хто прыносяць карысьць для Нашага жніва
сярод холаду буры?
Мой Статут ушаноўваючы – захаваныя будзеце.
Нястача не дакранецца да зьявы Маёй.
Супакой ёсьць у сьвятле Праўды.
Дадзеная гара  ня ёсьць выпрабаваньнем, але даручэньнем.

157. Туман толькі для зямнога вока цяжкі,
але той, хто заўважае зьявы жыцьця, бачыць цягнік
падзеяў.
Нашая Брама пераадоленая вядзе да багацьця незьлічонага.
Кожнае зернейка сонечнага золата – тарча ад месяцовага глянцу зямлі.
Трэба абраць шлях слонца альбо месяцу.
Слонца поўніць дзень цудамі – месяц спараджае зьменлівыя здані.
Хадзі па слонцы, сьцьвярджайся ў відавочным,
і дзень робіцца казкаю.

158. У пяску не шукай вады, лёд не нараджаецца
ў сьпёцы.
Вышнія шляхі вядуць на гару.

159. Сьцьвердзецеся ў Маёй сталай увазе
ды каханьні да вас.
Шчасьце ствараюць шматлікімі стагодзьдзямі складзеныя справы.

160. Пад знакам Маім зьбяру новых людзей.
Сьцьвердзецеся ў думцы прывабіць люд ды складаць Храм Мой рукамі люду.
Не марудзьце – М.·. кліча.
Сьцьвердзецеся і будуйце шлях да Мяне.

161. Я паказваю вам навуку на жыцьці кожнага дню.
Не лякайцеся ўбогіх – яны як лісьце зьдзьмухнутыя будуць.

162. Я духовую радасьць нясу.
Рука Мая ёсьць над чыстымі думкамі вашымі.
М.·. навучае вас маліцца да чыстых Братоў
за наданьне вам сходняў шляху горнага.

Рукою льга паведамляць найлепшыя токі.
Рукою льга й мора спыніць.
Каламутнай сьведамасьцю не перадаецца ток.

Мудра ведаць сваю моц на момант дотыку.

163. Будзьце як промень слонца і сьпеў птушкі.

164. Паказваю вам вялікую школу жыцьця.
Можаце чэрпаць мудрасьць параўнаньняў розных абліччаў.
Няхай чыстае імкненьне не занядужае, і пакажу шлях абраных.

165. Прызнаю небясьпечнымі школы засяроджваньня ў гіблай атмасфэры.
Людзі ўпарцяцца ў вабраных імі жаданьнях, але часта ток ёсьць слабым, і вобраз нараджаецца толькі ў глуздох.
Для моцных відзежаў патрэбныя і глеба, поўная электрычнасьці, і ўсьведамленьне спакою.

166. Рука Мая падае вам Тарчу на абарону.
Хмару Рукою, папраўдзе, адвяду.

167. Настаўнік знойдзе ўправу на неслухаў.

Настаўнік просіць прачытаць працу Арыгэна, пачнеце разумець памылкі касьцёлу.
Статуты Ягонай школы карысныя для сучаснасьці.

168. Імя Маё вучыць вашых ворагаў процідзеяньню, і Мае высланьнікі павінны вам дапамагчы ў бітве.
Зямное апірышча вашае ня ёсьць трывалым, але пад шатамі Нябачных Хаўрусьнікаў льга перамагчы.

169. Краіна М.·. знойдзе найлепшых муляроў.
Я, Я, Я прыняў.
Я, Я, Я тарчу сьцьверджу, і варожыя стрэлы акрасяць пёрамі тарчу перамогі.
Знайдзеце час дастатковы для варты вашае,
Князь прыходзіць і ў начны час.
Чужы голас ёсьць чужым для верных.
Ранішняе слонца бачаць тыя, хто абудзіліся рана.

Ды цёмныя тыя, хто слонца праспалі.

Я ёсьць з вамі і абараню.
Кожны сам куе шлях свой.

170. Трэба асьвятляць праявы пошасьці.
M.·. змагаецца.
Рука Літасьці працінае.
Навукі M.·. трымайцеся.
Трэба навучаць на магчымасьцях, агульных для людзтва.

171. Чыстая справа чыніцца пры дапамозе розных уплываў.
Процьма целаў поўніць вуліцы, ды асьвятленьне аўраў ёсьць бляклым.
Зразумейце.

172. Сэнс ёсьць ва ўсім. У Даручэньні да Літвінаў накажэце: ані гаспадарка, ані нястача не засланілі шляху да Нас.
Знойдзеце пярэчаньне: галеча й дзеці замінаюць.
Але дзеці ёсьць праскамі зямлі, а покрыва галечы ёсьць дарам ачышчэньня.
Скажуць: “Добра вам Бога хваліць у багацьці”.
Але й вы зьведалі нястачу.
“Добра вам разам зь сябрамі ды памагатымі”.
Але й вы бачылі жоўці каменныя сэрцы.
Папраўдзе, анікуды ня варты водзца, які бітвы ня зьведаў.
Накіроўваючы вас у горы, узбройваю вас да жыцьця.
Падаю навуку не на адзін дзень, але рыхтую да новага жыцьця.
Ня будзьце зь мерцьвякамі, бо растуць памочнікі.
Ня цуд, ды каваны клінок ёсьць жыцьцё вашае.
Ідучы да Сьвятыні, мінеце і пыл, і багну шляху.

Нават радасьць жабрака слонцу велькая.
Я з вамі.

173. Зразумейце, ня зь мёртвымі йсьці.

Калі людзкі дотык мае значэньне,
дык Нашае дакрананьне тым болей.
Людзкі дотык бывае даўгачасным,
але Нашае дакрананьне паведамляе энэргію на дадзены
Намі час.
Часта просты абразік прывабней за раскошную карціну.
Дзіва непрыкметна ўвойдзе ў жыцьцё.
Патрэбен час, каб чыстую Навуку праштурхнуць.
Перажывеце час.

174. Закранулі ўчора пытаньне аўры – кожны бачыць
астральнае клішэ праз колер сваёй аўры.
Чым паўнейшы акорд аўры, тым дакладнейшая выява.
У каго разьвітае пачуцьцё абавязку, той яго бачыць
найперш.
А каго прываблівае каханьне, прываблены будзе
да грані каханьня і, напоўнены радасьцю,
найперш угледзіць радасьць Красы.
Але камень, які зьзяе ўсімі колерамі Праўды,
адлюструе ўсю вялікую прышласьць.
Варта шанаваць і аднаколерны камень.

Памылкам навучаемся ўсьміхацца.

Кнігі як пералётныя думкі людзей,
трэба абіраць іх.
Шмат чаго лёгкага ёсьць марнасьцю для атрыманьня навукі
ад Мяне.
Зьбіраючы ў лесе ягады, бяруць толькі
выборныя.

175. Будзьце на варце. Няхай аніякая нечысьць
не пранікне ў Дом Мой.
Пушчу маланку на здрайцаў Маёй Справы.
Я пашлю пострах на тых вар’ятаў.
Тарча Мая заслоніць тых, хто навучае.
Дамо цуд тым, хто аказалі ўшанаваньне.
Дамо ўхваленьне захавальнікам знаку Майго.
Я выпраўлю да вас Маё Слова, занясеце Яго навучэнцам.

176. Нашае заданьне ёсьць дапамагаць людзтву.
Часта Ёг, зьліты з Богам, імкнецца забыцца
на зямлю.

177. Ўсьмешка слонца сярод хмараў дае вясёлкі
зьзяньне.
Будзеце Аўру Настаўніка памятаць, усьміхаючыся
праз кроплі расы будучага Яснага Дню.

Я трываю: Імя Маё ганьбяць, справы скажаюць
ды руйнуюць, чужымі рукамі Тарчу Маю
парушаюць;
Але карэньне Новае расы дужэе.

Слухай праўду – твае хмары насунуліся ад усьведамленьня
нечуванай сусьветнай катастрофы.
Сьляпыя весяляцца, глухія пяюць, але відушчыя
напаўняюцца смугою ды жалобаю.
Бязглузды, хто падчас бітвы напаўняецца
лагоднасьцю.
За пяць гадоў пражыты век, і розум людзкі
ўважае свой бег за няшчасьце.

178. Дам вам суцеху –
чыстыя ідэі не паміраюць, ды красуюць,
хоць бы ўсе маразы паграseverжалі ільдамі.

179. Сувора судзіць ня трэба падзеі жыцьця –
Ланцуг іхны прыводзіць да Брамы.
Чыстыя думкі патрэбныя для імкненьня
праз каменьне шляху.
Хто марыць быць добрым ня ёсьць добры,
Але, зьвінаваціўшы сябе ў жорсткасьці, прызнае рост духу.
Душа не іржавее, і дух крышталюецца.

180. І ў будучых школах Літвы шляхом росту духу
будуць навучаць тыя, хто зьведаў увесь шлях.
Мае абраныя панясуць Слова Маё простае
пра тое, што належыць Вялікаму Народу.
І каханьне асабістае, і народнае, і сусьветнае
ўзьнясуць афяру Творцу Каханьня.

Выпраўляем Ухваленьне й дапамогу.

181. Чыстыя думкі музыкі дапамагаюць перадачы току.
Молімся гукамі й вобразамі Красы.
Розум і сэрца не змагаюцца, толькі калі плывуць акіянам творчасьці.
І птах духу трапеча ад павеваў гармоніі.
І сталь слова зьзяе ад горну Праўды.

182. Мудры не лякаецца.
Дзіва прыходзіць нечакана.
Новае ўсё мае значэньне, часам пылінка ёсьць важнейшая ад гары.

183. Трэба марыць, шлях мары дае новае вакно.
Вакно вядзе да паветра.
Той, хто хоча – атрымлівае.
Усё мае значэньне.

184. Дзіва ствараецца сярод памкненьняў да жыцьця будучага.

185. Ня думайце пра ежу – іншы посьнік, які лашчыць думкі пра ежу, горшы.
Падрыхтуеце арганізм ня сенам; магчы можаце духам.

186. Пакутаваць ня трэба – больш карысна радавацца кожнай драбніцы творчасьці духу.
Творчасьць разьлітая нават сярод цёмных.
Вазьмі мікраскоп, і жыцьцё напоўніцца дзівоснымі формамі.

У цемры вока лацьвей авалодвае духовым зрокам.

187. Мудра не сумаваць, ды радасна імкнуцца.
Думаць трэба – думка спараджае справы.

188. Угледзьце сярод новых зьяваў згадануючбітву.

Вы ўжо ведаеце, наколькі ўсё напружана.
Прапанавалі шчасьце – гора тым, хто адхіліў.

189. Уважайце за лепшае мецъ зацятых ворагаў, чым нявартых сяброў.

Веды без каханьня ёсьць мёртвымі, але сьвятло вясёлкі зьмяшчае ўсе вагні.

190. Сьвятло вясёлкі толькі людзкому воку брыдкое, бо вясёлка ёсьць занадта тонкай вібрацыямі.

191. Падрабязнасьці шляху ўзьнікаюць у зьвязку з кармаю ды аўраю шматлікіх людзей.

192. Мяркую – птушка напыжваецца ў сьцюжу, але слонца распрастае ейныя скрыдлы.

193. Краса духу разьясьніць нораў нашага люду.

Ня плач там, дзе патрэбны ня сьлёзы, ды стрэлы, што працінаюць цёмны дух.

На Літве расквітнее мастацтва.

194. Аддалі вы шмат сілаў ды магчымасьцяў дзеля Нашае Справы, няхай цяпер і іншыя не збаяцца быць сьмешнымі ў Імя Бога.

Адпачнеце цяпер прад новым наступам, затое астатняя Брама блізкая.

Не кажу лагодных навукаў, у бітве памятайце пра Тарчу Маю.

195. Новы дзень нясе новыя мажлівасьці.

Птушка прад палётам не ўяўляе,
як пераляціць акіян.

196. Калі б вы чулі прагненьні для тэрміновага выкананьня,
сьвет бы разбурыўся.
Не лякайся настрояў, як лісьце яны зьмяняюцца.
Чысты ручай сьнегу спатоліць смагу.

197. Вам дадзела чакаць, але ўявеце, як
цяжка бачыць пабудову ўсё яшчэ бяз даху.
Дух людзкі з дабром змагаецца.
Хачу дапамагчы вам – іду ў бітву.

198. Нецярплівасьць пасажыраў ня можа прысьпешыць
кур'ерскі цягнік.
Новая акалічнасьць нараджае новыя ўзьлёты.
Не сьпяшайцеся – ўсё прыйдзе.

199. Цуд дзеецца. Чы⍰ніце працу,
патрэбную дзеля новага жыцьця.
Цяжкасьці справы ня ёсьць большымі ад шліфоўкі дыямэнту.
Чужая воля мусіць быць скіраванай на дабро,
як хваля на млын.
Ды колькі гацяў будуе млынар,
перш чым скіраваць хвалю да працы!
Трэба руцэ магчы і воку адважыцца на новыя
мажлівасьці.

Каштоўнаю ёсьць толькі тая праца, што зроблена сваімі
рукамі.

Працаю здымаеце замкі ад брамаў да тых краінаў,
куды імкнецеся.

Усё ёсьць мажлівым, ды ведайце, што дакляраванае спаўняецца
ў прызначаны час.
Той, хто жадае ехаць – даедзе.
Навучайцеся з жыцьця: выпраўляем вам партрэты
людзей, а падзеі складаюць вызначаную хаду
дзіва пераўтварэньня расы.

Кожнаму нясу талісман.
Той, хто прамовіць *Краса* – уратаваны будзе.

200. Мы гатовыя дапамагчы, калі чалавек не замінае.
Толькі на кліч адчыняем Браму.
Стрэлы Нашага высланніка накіроўваюць энэргію.
Усе сусьветы ёсьць на выпрабаваньні.
Клінапіс Ствараньніка поўны выпрабаваньняў,
і Сонца сонцаў сьвеціць несьціханаму
Сьпеву Вялікай Працы.

201. Патрэбны стрэлы, шукай сэнсу між зьяваў
жыцьця.
Трэба змагацца са злымі разбуральнікамі.
Націск набліжаецца, і выбар чыстага шляху сярод змаганьня
ёсьць справай вашага розуму.

202. На Гару Морыі хадзілі дзеля складаньня афяры.
Цяжка маліцца, калі розум ня ёсьць вольным.
Воля мусіць ахоўваць мейсца малітвы.

Лепей ведаць людзей, чым захапляцца маскамі.
Калі б людзкія сэрцы былі напоўнены пекнатою,
ня быў бы патрэбен гэройскі чын, ды цёмных так шмат.
Гэта мусіць паказаць цярністы шлях усякай
праўды.

203. Цьмянае асьвятленьне лёгка зьмяняецца промнем.
Здолейце вырашаць справу не ў грашовых гарантыях.

204. Думайце пра будучую карысьць
і не спыняйцеся на сёньня.
Дапамога Мая вялікая й неадкладная.

205. Паказаў новыя аблічча – вучэцеся.
Ведаць аблічча сяброў – сувора, але веды
перад усім.

206. Конь стае на дыбы ад лютасьці бізуна,
Пуруша дрыжыць ад прысутнасьці

несправядлівасьці.
Шчасьце сьмелым ды справядлівым!
Адзіным судзьдзёю ёсьць ваш дух – у ім Бог.

207. Космас адбіваецца ў зрэнцы кожнага вока,
І Бог спачывае ў кожным сэрцы.
Гора тым, хто праганяе Бога!
Лепей ня ведаць, чым здрадзіць.
Абралі Настаўніка, і Імя Мэсыі вымаўлена
ў Доме Маім.
Не малых рэчаў, ня марнасьці сьведкамі станецеся.
Воблака Боскай Гары праясьніцца, і маланка Голасу
асьветліць прорвы.
Новыя, новыя, новыя, дзіўныя, чуйныя,
прамяністыя зьбяруцца.
Настаўнік даў вам паказаць Аблічча Сваё –
Склікайце люд пад Дах Мой.
Пабудаваная й акрэсьленая і абведзеная плугам працы
Гара Морыі.

208. Не прыгнобім думак, і з усьмешкаю
стрэнем небясьпеку.
Ці ёсьць небясьпека пад Тарчою М.·.?

209. Трэба сьветла верыць і нечакана чакаць.
Не чакай, ды зважай на рух былінкі.

210. Чую, пыл сьлепіць вочы і бітва засьціць
слых,
Але веды надыходзяць і здужаюць зямную змучанасьць.

Трэба ведаць, што абранае дабро прывядзе
да вытоку.
Па прыкметах вызначыце час прыступак
узыходжаньня, і станецца хада падзеяў
кнігаю жыцьця.
Усе прыступкі даю, і шлях ідзе проста.
Стваральнік шукае формыю
Пошукі ўхвалёныя.
Палай, сьвяці і асьвятляй.
Сок ведаў назапашваецца, і плод сьпеліцца пад рукою

садоўніка.

211. Памерці ня можа дух,
а розум ня можа зьнішчыць Цуд Стваральніка.
Дрэва можа ахінуць ценем шматлікіх.
Але садоўнік ведае, як расла кожная галінка.
Галіны загінаюцца, і форма дрэва здаецца
вандроўніку магутнай, а тарча лістоты дае прытулак
мінакам.
Чыстыя думкі як галінкі ўюцца – розныя яны,
ды рост іхны ўзмацняе дрэва.

212. Там, дзе Мае сілы не павінны ліцца
марна, там сьцішцеся – будзьце мудрымі.

213. Мы чыстыя задумы ахоўваем талісманам.
Талісман гэткі ж навуковы, як магніт.

214. Шляхоў ёсьць шмат, ды сэрца ведае найбліжэйшы.
Добра зразумець – шмат чаму навучыцца.
215. Падмурак глыбокі.
Будаўнікі, што закладваюць падваліны, ня ведаюць вышыні
будучых вежаў,
але Дойлід акрэсьліў ужо іхнае прызначэньне.
Сувора й цяжка растуць пэўныя справы.

Хай маладушнасьць сыдзе, і здрада зьвіе
свае гнёзды.

Нішчым гнёзды маланкаю і зьмятаем віхурай
маладушнасьць – куем шлях.
Ідзеце – працуйце.

216. Стваральнік повен неабсяжнага спакою
сярод незьлічоных рухаў.
За першым спакоем надыходзіць другі.

217. Ня трэба засмучацца, калі ўтома валодае
целам, – дух заўжды ёсьць вольны.
Пасярод бітвы дазволена адпачыць.

218. Параўнайце стаўленьне да вас новых людзей,
Таму кажу – пакіньце старых,
дзейце новымі.
Здолейце ўсьмешкаю адчыніць дзьверы шляху.

219. Цемра мусіць быць зьнішчана.
Чыстыя думкі няхай спадарожнічаюць Справе Маёй.
Сачэце, каб цёмныя не забаўляліся зь Імем
Настаўніка.
Вучэцеся знаходзіць спадчыньнікаў, якія разумеюць
значэньне.

220. Мая Рука абірае годных.
Здолейце разумець Мае ўрокі.

221. Мы ведаем плынь акіяну, і кропля аніколі
не перапоўніць бяздоньня.

222. Складаны час і цёмныя сілы,
ды Прамень чувае.
Рука Стваральніка акрашвае тарчы абраных
духовымі праявамі.
Чужое ўмельства не раўнуецца да майстэрства Творцы.

223. Тарчы Нашыя не іржавеюць,
І шлях – да Нас.
Глядзеце на падзеі далёка наперад.
М.·. захоўвае.

224. Лепш сувора ведаць, чым расчульвацца.
Навучаю праўдзе жыцьця.
Трэба ведаць, перш чым магчы.
Трэба магчы, перш чым дзеяць.
Дзеяць льга тое, што апраўдана духам.

Калі вы не дзіравы човен, то даплывяце.
Ветразь узьняты, і стырно агледжана.
Тарча Мая заслоніць вас на полі бітвы.
Рыхтуйцеся да бітвы –
Чыстымі думкамі пераможаце.

225. Казка жыцьця ўсталюецца, але лавеце хвалі клічаў.

Пасярод спатканьняў ды лістоў шукайце выпраўленыя дыямэнты
 мажлівасьцяў.
Трэба глядзець шырока й далёка.
Разумейце, воі!

226. Кожны выконвае ступень ўзыходжаньня і нясе сваю паклажу.

227. Новыя ніткі ўплятаю, шукаю мейсцы яднаньня.
Ускладаю на вас патрэбныя вянкі і ў цішы
 рыхтую вас да бітвы.
Радуйцеся, сьмелы ходзіць праўдзівым шляхам.
Магу засланіць адданых.

228. Тлум цёмных не замінае пабудове новых людзей.
Мука� ў сярэдзіне ня чыстая, ды набыць новую
 няма грошай.
Той, хто ведае – перамагае.

229. Так, так, так. Усякае слова яднаньня на зерне найлепшае краскі падобнае.
Гадаваць сад пекны кожнаму дадзена.

Але дзе ж ёсьць садоўнікі, якія ведаюць гатункі зярнятаў?
Навучым зьбіраць ураджайныя сьцяблінкі,
Пасьцінаем пякучае зельле.
І тую зямлю, дзе Бог паказаў Аблічча, аздобім краскамі.
Ды дзе ж ёсьць краскі яднаньня –
 захавайце пялёсткі іхныя.
Так, так, так.
Ноч зацемнавае найлепшыя вобразы, але разумейце –
 Сьвятло йдзе.
Нашто выпрабоўваць вас, калі Храм ня будзе
 дабудаваны?
Але праект ужо ў руцэ, і падмурак закладзены.
Сьвятым будзь Імя Адзінага Бога.

Ня марнасьці сьведкамі станецеся.
Абновіцца жыцьцё – Я кажу.

230. Трэба пакласьці намаганьні, трэба рукамі будаваць новую моц.
Дапамагу, дапамагу, але прыкладзеце намаганьні.

231. Тарча ды дзіда! Пан ухваліў ваёўнікаў.
Усё прыйдзе – змрок скончыцца.
Хіба ня бачыце, сьведамасьць Космасу ёсьць у канвульсыі!
Бо Мы ведаем ходу бітвы, ня можа зьмяніцца Плян Стваральніка.
Ад Пачатку змагаліся цёмныя, ад Пачатку Мы перамагаем.

232. Заўжды шлях дабра ня ёсьць сьпяваньнем псальмаў,
але працаю ды слугаваньнем.
Калі перакуліць карму, яна абрынецца на вас.
Пакуты духу ёсьць адзінай драбінаю найкаротшага шляху.
Пакуты дзесяцігодзьдзя прабягаюць у вадзін дзень у абраных.
Лепей чара горкая, чым жыцьцё з прысмакам горычы.
Заплацеце па рахунках у гатэлях,
і з паклонам вынесуць куфры вашыя на карабель.

233. Дзіва дзеецца неспадзявана.
Няма нічога выпадковага.
Ізноў паўтараю – не лякайцеся.
Зноў яшчэ ўкус – але не лякайцеся.

234. Можна ў жыцьці мінаць наканаваныя мейсцы,
але не зважаць на клічы.
Мы можам мігамі пасоўваць справы.
Але мігі Нашыя не дапамогуць вашай карме.
Тарча Нашая абароніць вас ад нападу цёмных сілаў,
але плаціць па старых рахунках непазьбежна.
Рука лёсу вядзе да Дабра.

235. Адтуль, дзе сны ствараюцца,
Дзе ўзносяцца афяры,
Дзе Сьвятло Нябачнае працу асьвятляе,
Адтуль прывітаньне.

У шэпце лісьця,
У плёскаце хваляў,
У павевах ветру,
Я – з вамі.

Сярод жорсткіх ды цёмных,
Сярод здрады духу,
Сярод шуканьняў ды жальбы,
Тарча Мая над вамі.

236. Нясі сьвятло і не азірайся назад.

237. Любі ліст прыдарожны – яго стварыў Бог.

Разуменьне – у сэрцы.

238. Ірваць повязь, ускладаць на шалі моц Нашую, застацца бяз доступу да Нас – небясьпечна.
Ня сьмех, ані жарт набліжэньне да Сьвятла.
Сілы атачаюць кожны ваш рух,
і ледзь сьвітанак сьведамасьці зьменіцца прыцемкамі,
крыльле і кропкі змроку могуць зачапіць.
Цемра можа агарнуць адступнікаў.
І лёгка спатыкнуцца ў гарах.
Лепш не адрынуць Руку Водзцы,
Чым ліхтара збаўцы чакаць.
Радыя аблуды вярнуцца нават на сабачы брэх.
Ці не лацьвей ісьці з павадыром пасярод дыямэнтаў сьнегу?
Трэба разумець.
Трэба памятаць.
Трэба ведаць.

239. Шлях агульны не вядзе да Сьвятой Гары.
Прызнаю здраду за найгоршую рэч.

240. Радасьць ёсьць праявай Моцы Стваральніка,
што асьвятляе цемру сьвету, куды Статут Наш
прыводзіць цераз працу кожнага.

241. Сьвітае новы дзень над зямлёю.
Цяпер ня плынь, але вір.
Кожны асабісты сьвет асьветлены полымем Вогнішча,
што зжырае струхлелыя формы.
Тая мудрасьць Творцы дакляруе Новае Места,
спальваючы стварае.
Ці нам, сьведкам, смуткаваць, разумеючы
Вялікую Задуму?
І глухія, і сьляпыя, і седакі застаюцца мінакамі,
Ідзе Стваральнік.

242. Ці ня казкаю ёсьць вашае жыцьцё?
Кілімы-самалёты ў вас разасланыя, і палеціцё
сьмелым духам.

Але нават мядзьведзі дапялі, як плаваць разам.
Колькі карысных вобразаў параскідана наўкола!

Мяркую, што трэба перажыць час, ведаючы, Чыя Тарча над вамі.
Імкнуся прысьпешыць ваш бег.

243. Не паняверка, не шкадаваньне, не маркота,
ды прышласьць ёсьць прад вамі.
Чатыры вартаўнікі, келіх Арханёла сьцеражэце!
Напоўнены віном новым дадзены вам каўчэг.
Вуснам часу Я наказаў прывесьці вас
на шлях Мой.
Пад покрывам зямлі схаваў вашае аблічча.
Напоўніў уцеху ўзыходжаньня,

Праясьніў памяць скрутку мінулых жыцьцяў.
Пашырыў сьведамасьць ды разгарнуў кнігі.
Прыйдзеце, прымеце.

*Пацеры*

“Ты, Хто Даў голас і тарчу мне, выправі Настаўніка

на шляхох маіх – адкрыта сэрца маё".

244. Новыя абранцы думку выкажуць проста і ясна.
Кожны час мае сваё памкненьне:
То здымаюць аправу з камянёў,
То аздабляюць іх да непазнавальнасьці.

245. Дзівацтвы духу ў чужых абалонках змушаюць абіраць выйсьце не патрэбнае Нам, але пераканальнае для людзей.
Мілей для іх дарожкі саду, чым прырода.

246. Аум і Ягова суадносяцца як вушакі адных дзьвярэй –
Усё знакі аднаго калідору жыцьця.

247. Уночы навучаем, удзень людзі сабе прыпісваюць.
Найважнейшае існаваньне ўночы – вока дасягае прорвы і вуху блізкі віхор.
Вартаўніку, памятай пра даручаны скарб.
Уважай, што клічы Нашыя даюць веды, якія ёсьць вышэйшымі ад статутаў даўніны.
Непагадзь насоўваецца – навучаю, якператрываць яе.
Рука Стваральніка адчыняе дзьве сфэры.
Абраць шлях прызначана.
Сабачая зграя брэша, і пугач бліскае вокам у цемрадзі.
Але тыя, хто ведаюць, не дрыжаць.
Тарчу Я выпраўляю – пільнуйце, каб не адкінуць шчасьця.

248. Ранак бывае мглістым і золь працінае сэрца.
Але вы ведаеце – шчасьце набліжаецца.
Абагрэйцеся вагнём усьведамленьня прышласьці.
Змрок не трывае доўга, так, так, так.

Бітва кіпіць, вуха выразна адрозьнівае шум тупату.
Так, так, так. Напоўніцеся моцаю.

249. Пагамонім з дабратою ды навукова.
Ня дзеля Мяне, ды дзеля вас кажу пра давер.
Пакункі разьбіваюцца аб замкнёнае сэрца.
Калі кажуць непатрэбшчыну, драты блытаюцца.
Эманацыі раздражнёнасьці ня толькі адкідваюць выпраўленыя думкі, але нават дзеяньне ня можа дакрануцца да вожыка.
У гэтым ёсьць розьніца апярэньня ад голак вожыка.
Стрэлы пёрамі акрэсьляць кола паратунку, але калі голкі паняверкі не дапушчаюць тэлеграмы да прыймальніка, тады асаблівая цяжкасьць узьнікае.
Найвышэйшыя выпраўляюць Нам Дабро.
Мы пераказваем яго вам, але калі Мы і вы адрынем выпраўленую сьведамасьць, тады мы захлынемся ў хвалі зла.
Найлепшыя апараты знаходзяцца ў глуздох.
Хутка новыя асяродкі будуць вернутыя людзям.
Ізноў закрасуе дрэва веданьня.

250. Змрок ня ёсьць вечным – трэба замець пературываць.
Трэба ўмець сьпяшацца – палайце!

251. Струмені радасьці напаўняюць акіян думкі Стваральніка.
І вы, хто акрапляеце радасьцю душы, складаеце афяру Творцу сусьветаў.
Праясьненьні будуць бясконцыя. Вучыся і навучай.
Навучайце радасьці і не памыліцеся.

Кожнае дрэва ў радасьці апранаецца ў квецень, але, скідаючы лісьце, яно не сумуе, бо ведае пра вясну.

252. Зноў падчас бітвы засяродзіліся на красках, ды людзтву далёка да красак.
Цьвердзі: *Краса*, нават са сьлязьмі, покі дойдзеш да прызначанага.

253. Цяжкімі бываюць зямныя эманацыі.

Да цябе прыйдуць, запалі вагонь, ён ім патрэбен.
Ня нам развужаць, калі можам запаліць.
Ня засьці шляху для навэльцаў, якія стукаюцца.
Старыя формы ня вартыя.
Той, хто ведае Красу, не ўвядзе ў блуд вандроўніка.

254. Істота нашая адчувае патрэбу ў токах праны.
Чужыя сілы спажывае змучаны арганізм.

Скіруйце думку на еднасьць ідэі рэлігій
усяго сьвету.
255. Цьмяна гарыць сьвятло сьвету, і кожнае жаданьне слугаваньня ёсьць асабліва каштоўным.
Але адно ведайце – дабрадушнасьць ды дзейнасьць
найлепей Нам дапамагаюць.

Не для відовішчаў, ды дзеля карысьці заклікаю.
Скрыдлам вагонь ня шкодзіць.

256. Трэба зьзяць духам, ведаючы, што ў духу Праўда.
Трэба асягнуць гэдак шырока, які шырокі ёсьць абсяг духу.
Ня думай пра падзеньні, калі дадзены скрыдлы
для палёту.

257. Трэба шанавацца і датрываць да канца бітвы.
Трэба магутную хвалю скіраваць і пераскочыць
баразну зла.
Трэба ноўмэну моц заклікаць і створаным
Тэрафімам працяць скарынку зла.

258. Да вас прамаўляю і вам наказваю і напаўняю вас прагненьнем гэройства ў навучаньні.
Але трывалым ёсьць ня толькі давер,
але й будаўніцтва.
Давер чыніць зь Мяне будаўніка, але вы мусіце
будаваць.
Жняяр сажне сваё збожжа.
Каб змагчы сабраць смоквы, трэба знайсьці смакоўніцу.

259. Расы зьліюцца ў Новым Сьвеце.

Не кажэце пра расы, кроплі розных мораў падобныя.

260. Глядзеце на Тарчу Маю
як на прадвызначэньне.
Глядзеце на мудрасьць новага пакаленьня
як на шчасьце.
Глядзеце на прасьвятленьне люду
як на прыступку да Новага Сьвету.
Глядзеце на Нашую Праяву як на час Варты
над Сьветам.
Але ўшануйце Статут Мой.
Але ўшануйце спасланьне Нашае.
Здолейце панесьці Сьвятло.
Здолейце паказаць прастору Красы.

Струхлеласьці старога сьвету няма хады.
З парахнёю няма пабудовы.
Са сьвістам чыжыка не параўнаць,
Зь цьвілым хлебам не паспытаць,
З куродымам не прадыхнуць
Будучую дзівосную аповесьць.

Але для скрыдлаў, што крануліся слонца,
Але для бегу перад узыходам сьвятла,
Але для сьпеву, што напоўніў ноч,
Шлях ня ёсьць ані страшным, ані жорсткім.
І зорка блізкая да тых, хто знайшлі Тэрафім.

Трэба ўсьмешку да зор выправіць.

261. Калі мы ў доме, не адчуваем яго,
бо мы ў ім.

262. Належыць выявіць чысты нораў ды напяць струны
сэрца.
Навучаньне працягваецца.
Нядоўга цяпер чакаць.
Трэба ўсьміхацца.
Сталь гартуецца ў вагні – моц духу расьце
ад дыханьня жыцьця.
Льга шмат чаму навучыцца з палёту журавоў.

Але шмат што можна прыняць за пералёт да краю дзівоснага.

263. Цяжка жыць сярод чужынцаў, сярод злых разбуральнікаў: уцячы гатовыя.
Цяжка ёсьць адкрываць сэрца, падабацца людзям, выпраўляць вітаньні.
Горка сее, соладка жне, дзіва дзее чалавек-высланьнік.

264. Можаце вучыць на справе, як трэба быць дасьціпным,
Бо ў кожных варунках ёсьць розныя магчымасьці.
Але розум трэба памкнуць да сьвятла.

265. Пыл кнігі ёсьць вартым пашаны, але дух лунае бяз пылу.
Цяжар - у нас.
Сьпявайце: песьня ваўкоў пужае.
Вандроўнікам лепей сьпяваць.
Таемную песьню сьпявайце.
Сну не паддавайцеся.

266. Карма ёсьць важнаю, але яшчэ важнейшае абраньне.
Карма ёсьць толькі ўмоваю абраньня, але толькі абраны даручэньне нясе.
Усьмешка Стваральніка каранue не з удзячнасьці, але з радасьці вагню сэрца, і над галавою зьзяе знак вагню.

Сучкі сьсечаныя даюць рост камлю, пакінутыя звычкі ачышчаюць дух.
Пераменаю ачышчаеце.
Сьмеласьцю сьцьвярджаеце.
Кемлівасьцю знаходзіце.
Сьпяшацца лепей, чым спаць у чаканьні.
Сячэце бярвеньне – стаўце хату.

267. У жыцьці мы не заўважаем найважнейшых момантаў, яны здаюцца нам пылам.

Калі б уявіць вырашальны момант для Літвы,
дык толькі дасьведчаны вучань пазнаў бы яго.
Рука Стваральніка ёсьць ня толькі ў дзівосных
праявах, але й у русе былінкі.
Брама адчынена, няхай берагуць паходню.

268. Пасьля вучняў Арыгэна пачала ілжывая вера
духавенства расьці.

269. Слухайце пра моц духу – ягоная моц
невычэрпная.
Слова толькі нікчэмная частка.
Віхор толькі прадказальнік руху.
Сьнег толькі вястун сьцюжы.
Зарніца толькі вока навальніцы.
Слова толькі пыл ад удару творчай думкі.

Выток думкі ясьнее шчасьлівым вачом –
І напятая струна зьвініць чуйнаму вуху.
І Я лякаўся і слабеў у палоне марнасьці.
Але Веліч Творцы чыніць роўнымі драбнічку пяску і гару.

Пачуцьцё Пачатку і Бясконцасьці напаўняе
кожную хатку і кожнае сэрца.
Але адкрыйцеся й дапусьцеце.
Лісьце расьце кажан дзень, краскі – толькі да тэрміну.
Цуд гадуе дрэвы вокамгненна.

270. Сокал ня ўпусьціць скрыдла падчас лёту.
Алень, што мкнецца над прорваю, не прамарудзіць.
І гэдак хадакі ў часе не адстануць.
Не прыліў, ані адліў, ды залатая плынь Космасу
рухае ладзьдзю.
І згорнуты ветразь, ды прызначаны бераг.
Тарча Мая палае, і з рамёнаў зіхціць праменьне
гэройскага чыну.
Маё сьвятло ўзмоцню і акрылю ступні ног.
О ты, хто падаўжаеш шлях, знайду маланкі
і па іх перайду прорву.
Абвіну плашчом віхор і на вышыню ўздымуся.
Дзе ж пыл шляху майго?

Дзе ж сьпёка неміласэрная?
Дзе ж залева, што засланіла ўсход?
Ступні мае цэлыя, і пярсьцёнак Твой моцны ёсьць
на руцэ маёй.
Валадару, паглядзі, мяне даганяе мой сокал!

Нясу вас, выпраўляю дождж клопатаў.
Мае клопаты – радасьць для вас.

271. Дакляруюрост сьведамасьці, яна прыходзіць паступова, непрыкметна, як рост зёлак.
Найперш сьцьвердзім пагарду да ежы.
Але як ападкі з саду зьбіраюцца ў кош,
так завершаныя думкі зносяцца.
Гэтак жа, як і адчуваньне недасканаласьці людзей
было заўсёды, але цяпер і гэты плод адпаў.

Ля брамы Новага Сьвету натоўпы, ды ня ведаюць Брамы.
Але лёгкімі ёсьць прыступкі духу, і адзіным прагненьнем
стаюцца на мейсца рэчы сьвету.
Носьбіты прагі Красы – Дабро вам!

272. Трэба ўсе сілы Космасу накіраваць на росквіт духу.
Утома дае аднаўленьне арганізму.
Усьведамленьне мэты надае значэньне кожнай
праяве духу.
Усе вятры слугуюць млынару, каб назапасіць найлепшую
муку.
Вывучыць увесь кругазварот прыроды ды ўсьведаміць ягоную
красу – значыць даць людзям скрыдлы.
Ключ патрэбен, каб адамкнуць вязьніцу,
але скрыдлы ўзьнясуць да сьвятла.
Кожны ключ ведае сваю вязьніцу.
Але настане час, калі людзі ключ зьненавідзяць.

273. Выпадковасьцяў не бывае.
Мушу замацаваць сьведамасьць вашую
пра мажлівасьці духу.
Пасьля велькіх хваляў даходзяць да хваляў думкі
людзей.

Нават даходзяць да хваляў расьлін, але затое потым
выкшталцоны слых паглыбляецца ў хвалі
гармоніі Космасу.
Змардаваньне цела бывае ад бегу
за дасягненьнем вашым.
Дасягненьне ёсьць – яно расьце як крышталь,
насычаны досьведам.
Мы клапатліва сочым за плывунамі Нашымі.
І калі салёная хваля хлысьне ў вуха – не лякайцеся:
Мы з вамі.

274. Працягнеце руку над бяздоньнем.
Няма страху над бяздоньнем, бо для духу страшнейшыя
пакой ды кілім.

Само ўведаньне памкнеце да Нас.
Хмары ня вы бачыце, ды Мы.
Імкненьне дзіва стварае, але ўзважваць дайце Нам.

275. Даўнейшы водар ператворыцца ў смурод.
Даўнейшы сьпеў – у тарахценьне кола.
Даўнейшая тарча – у пячную засланку.
Гэдак расьце дух, паўсталы прад сьветабудовай.

У малым пакоі і на малым кіліме зьмяняеце
зношаную луску.
Што ж у сьнягох гораў ды ў струменях слонца
можа быць абмыта?
Новую скуру атрымае вызваленая мудрасьць.

Разам з вамі цешымся з назіраньняў над зьмененымі,
аголенымі людзьмі.
Як фіранка вокнаў адсланілася
і ўсё хатняе гаспадарства паказалася.
І лёгка даць параду, чытаць разгорнутую кнігу.
Так, так, так.
Вы зьмяняецеся ў Мяне на вачох.
Нас замацоўвае вашая рашучасьць, і латва йсьці
ля прорвы, калі ведаеш пра кілім-самалёт.
Зважайце на ўсё.

276. Покі на кірмаш хадзіла,

Да нас купец пастукаўся –
Твае маністы хацеў памяняць.
Заміж чырвонага каменьня
Паказаў каменьне зь сінім вагнём.
Мама, ня ведалі, якое каменьне барвісьцейшае?
Купец быў высокі і чорную меў бараду.
Чаму задумалася, мама?
Ашукаць задумаў купец.
Як кроў, чырванее тваё каменьне,
Як жар гараць маністы.
Чаму задумалася, мама?
Мы больш ня ўпусьцім купца.
Але скуль сьлёзы?
Адна запалілася сінім вагнём!
Ці не чарадзей прыйшоў?..

Не дзяцінья рукі распазнаюць каменьне,
Часта чырвонае для іх бліжшае.

277. Пасярод кожнага дню шукайце проблiскаў Сьвятла.
Рост думкі пра Добрыя Сілы ўмацуе сьведамасьць тых,
хто стукаюцца.
Пасьля абсьмяяньня, абылганьня, ачарненьня духу
малыя спыніліся прад цьвердзю дабра
й чыннасьці.
Знак вечнага жыцьця стукне ў найніжшы лоб.

Мілыя крамнікі, што за карысьць – ашукаць
саміх сябе?
Гаротныя кіраўнікі, ці цуд гэта – будаваць
сабе вязьніцу?
Лютыя мудрацы, ці ж ня сорам сваіх
цьверджаньняў зрачыся?
І вы, дзеці вуліцы, не забудзьцеся,
што зорка між дамамі – ня лямпа.
І ныраеце, і лётаеце, і чуеце,
Але дзе ж ёсьць пэрліна духу вашага?
Куды памкнуліся?
Зьбіліся з тропу, і чужы сучок працяў
скрыдлы вашыя.

Вушам сьмецьце шкодзіць, кажу як лекар.
Але Мае лекі ня ёсьць складанымі,
І Мой рог не аглушыць – травы растуць шумлівей.
Адчуй сэрца, сьлязою абмый засоў твой.

278. Лісьце зёлак перахоўвае сонечнае сьвятло.
Няўжо толькі людзкое вока прад сьвятлом
мружыцца?
Тарчой праказы не схаваеш.
І шалом не заменіць галавы.
Наш кліч прасьцейшы ад дзіцячай просьбы.
Прымеце прыгатаванае багацьце.
Калі руку напінае мускул,
То Бога прымеце духам.

Ураджай кепскі ў дурня.
Але Мы даем зерне адмысловае.
Прадаем танна.
Няўжо выбераце зьесьці саміх сябе
толькі па цемрашальству?
Прашу, але й папярэджваю,
Зьявы будуць, уздымаецца заслона,
І акуляры не ўратуюць вачэй, поўных пылу.
Хадзеце да лекара.

279. Рука ночы перахоўвае пэрліну.
Вока дню сьцьвярджае здабычу.
Цемра ня ёсьць цёмнаю арлінаму воку.
Знаходзьце новую здабычу.
Уночы і ўдзень памятайце наказаныя тэрміны.
Чую, ідзе шчасьце.

280. Калі мы мусім змагацца ды нішчыць
зло, ці не фанатыкамі будзем?
Дзе ж мяжа справядлівасьці?
Але той, хто прайшоў школу гармоніі –
умее кіравацца сэрцам.
Наш вучань вырашае кожны ўдар палашу духам,
памкнёным да Нас.
Не марудзіць, ды сьцінае намыслы ворагаў.

Не супакой, але дасьціпнасьць валодае
Нашымі ваярамі.
Не заплюшчаныя іхныя вочы, клічам да працы – скажэце
тым, хто думаюць, што Мы адрываем ад працы.

281. Навучаю запытваць лёс – тэрмін трэба
разумець.
Цераз разуменьне тэрмінаў складаецца пачуцьцё арганізацыі
Космасу.
З воляю тэрміны праплываюць у ладзе і не разбураюць.
Рука Водзцы знаходзіцца над духам,
Як стырноўца лучыць хвалі, тэрміны і сілы.
Таму Нашыя вучні павінны ўмець пільнавацца
дыханьня жыцьця кожнага дню.
Змрок невуцтва ды міна незадаволенасьці –
гэта не свае знакі – аддайце іх цёмным.
Тарча Мая – для чыстых прытулак.
Мае стрэлы – для адданых скрыдлы.
Мой меч – для адважных паходня.
Мая ўсьмешка – для мудрых абяцанае шчасьце.
Сэрца Маё – дом для вас.
Храм ваш ёсьць цудам для Мяне.

Умейце знаходзіць Уршулю і Антонега ў жыцьці.
Уважаю, што можаце ўведаць Статут Мой.
282. Пачуеце пра Нашае памкненьне на вяршыні гораў.
Чытайце пра Наш сон праўдзівы.
Даведаецеся пра Нашае Зьяўленьне, і ўсё-ткі
не паверыце,
Бо Мы навучаем тых, хто пастукаліся.
Сувора ня пусьцім здрайцаў.
Сувора пушчайце думкі пра Нас.

Чуеце, ад новых агнічак успыхваюць праясьненьні.
Адвядзеце ворагаў – яны небясьпечныя для новых.
З усьмешкаю паслухайце довады навукоўцы,
ён анічога ня бачыў.
Ды Арлінае Вока ёсьць над вамі.

283. Трэба шукаць аказіі слухаць.
Велькае маўчаньне ахінае адкрытае вуха.

Па галасе бывае ціша непрацінальная.
І пасярод бітвы ціша асабліва ўражвае.
Вуха нібы адварочваецца ад зямнога пляну.

Недасяжнае сёньня заўтра ёсьць лёгкім.
Цяжкасьць шляху залежыць ад звычак цела.
Таму ахоўвайце дзяцей ад звычак –
як шалупіньне павінны адпасьці.
Процьма прусакоў, што атруціла хатнія сьцены,
мітусіцца па кутох.
Цемра людзей тым зьвязала,
Але бліскавіца палашу пратне цемру.
Будзе Сьвятло.

284. Чыстае паветра патрэбна для току.
Параўнайце з электрычнасьцю па навальніцы.
Цуды могуць быць ва ўсякім мейсцы,
але навука ёсьць зьнітаванай са станам духу.

285. Надыходзяць тэрміны духу.
На мяжы сьведамасьці зьмешваюцца праявы
шчасьця ды цемры.
Пераход ночы ў ранак ёсьць непрыкметным для вока.
Але ведайце сьвятасьць Мейсца Паньскага.
Ня пыл, ня гнеў прынесяцё і зморыце голад,
калі спадзеяцёся зьявіцца прад Абліччам Веданьня.
Запал духу – ясьненьне Ласкі Боскай.
Ласка Боская гартуе ваярскія латы.

286. Новыя, новыя, новыя зьбяруцца.
Лічэце сяброў, пазначайце браму будучага
Ўзыходу.
Аднаўляйце апярэньне, стрэлы зьвісаюць бясьсільна.
Вучэцеся лётаць.

287. Для каго тэрмін ёсьць доўгім – лепш не датыкацца.

288. Вы закладаеце новы падмурак Красы.
Мы з вамі закладаем пачаткі Новай Навукі.
Прыліў зьмяняецца адлівам.
Дзевяты вал – найвялікшы.

Жадаў бы паказаць вялікую бітву Нашага Дню.

289. Пра надзею, пра чыннасьць, пра мужнасьць навука каго адверне?
Для каго тэрмін ведаў ёсьць жудасным?
Хто прад аблiччам каханьня палатнее?
Хто лякаецца скрыдла Анёла? –
Ня трэба вас!

Ясьніцца Храм запаветны, і шлях наш усталяваны.
І кожны ранак імкне нас да слонца.
Ды шчасны той, хто не заўважыў дню і авалодаў пэрламі зорак.
Не паміраюць тыя пэрліны, і дзе знойдзеце, нябогі, трывальшы скарб?
Учынім падлік, ды ня возьмем грошы мераю.
Сутарэньні напоўнены, спапялю золата зямлі Новым мэталем.
Залатая тарча ня ёсьць трывалаю.

290. Трэба выкарыстаць мудрасьць, пра чыннасьць кажу.
Кожны дзень нясе промень бадзёрасьці.
Ды чыннасьць мае не асабістае значэньне, калі рык цемры адказвае на абарону чыстага места.
Размах Правіцы Сейбіта перавысіў цьвердзь.
І правіцы ўсіх Сыноў уздымуцца тым самым рухам і кінуць зерне сваё.
Сьведчу пра час дзеяньня.

Найбліжшыя дні майце за прадвесьце зімовых дзеяў.
Сьпяшайцеся дзеяць.
Зьяднайце сілы ў чыннасьці.
Войска не было яшчэ ў такім русе.
О востры палашу!
О кувалда, якая разьбівае!
Іду, Будаўніку. Іду!

291. Дасьціпнымі будзьце – чынеце!

292. Мы кажам адзін раз.
Не паўтарайце пытаньня.
Незразумелае і непачутае гіне для зямлі.
Льга зноў зразумець і ўзыходзіць, але па новых прыступках.
Таму будзьце ашчаднейшымі.

Зьнямога ня ёсьць небясьпечнаю, людзям больш шкодзяць легкадумнасьць ды грубая скура.

Да Гаспадара прыпадобнімся ў сталай чыннасьці,
Не зьлякомся кропель працы.
Нават злы чын ёсьць лепшы ад нячыннасьці.
Дасягайце да гавані, для кожнага карабель прыплыў.

293. Ці цяжкай ёсьць справядлівасьць?
Дзіця ведае пачуцьцё справядлівасьці лепш за судзьдзю.
Чаму толькі старыя ды дзеці могуць судзіць на зямлі?
Сьмешны ёсьць суд людзкі.
Законы засланілі ўваходы.
Здолейце судзіць пад зоркамі.
Здолейце зьмерыць адлегласьць заплюшчанымі вачыма.
Кожнаму дадзена знайсьці сьвятло нутранога зроку.
Ды лянота, ды няўдзячнасьць, ды цямрэча, ды лютасьць на вашых хрыбцінах скачуць.
Сьляпыя вандроўнікі, дзе ж дзіцячая справядлівасьць?
Адмыйце бруд звычак.

294. Адныя жывуць у сутарэньнях,
Іншыя плішчацца на гарышчах,
Яшчэ іншыя задавальняюцца пакоем у чужым памяшканьні,
Але некаторыя валодаюць цэлым домам.
Хачу даць дом таму, хто з Намі жыве.
Някепска валодаць домам,
Пекным ёсьць заглядацца на ўзыход слонца пасярод саду, што вісіць.
І танна прадаем дом.
Слова сэрца ды гожыя дзеі – плата нявелькая.
Зразумейце выгоды, зразумейце хоць па людзку.

295. Стваральніку, дай абудзіцца новаму духу майму, калі навальніца сьцішыцца.

Пярун напаўняе маўчаньне ночы,
І бліскавіца жахае прад маім вакном.
Няўжо і ў гэтую ноч вястун можа прыйсьці?
Але ведаю, пытаньне недарэчнае:
Ідзе высланьнік.
Настаўніку! Уменьне змагаецца са сном,
і вока не працінае цемры.
Пакладу кувалду ля дзьвярэй,
Няхай вястун замок разаб'е.
Нашто мне замок пасьля весткі?

296. – Валадару, чаму не даверыш мне сабраць усе плады саду Твайго?

- Але дзе ж кашы твае?

- Валадару, чаму не пральеш на мяне струмені Тваёй Боскай Ласкі?
- Але дзе ж збаны твае?

- Валадару, чаму замест шэпту ня скажаш громам Праўду Тваю?
- Але дзе ж вушы? да таго ж навальніцу лепш слухаць у гарах.

297. Людзі зьбіраюцца, досьвед узрастае, дапамога прыходзіць.

Так карабель, узьняўшы ветразі, толькі прысьпешвае бег.
Прасьцей, лацьвей, вышэй і непрыкметна ўздымаеце цяжары, як пылок красак.
Няхай пераход лёгкі будзе, прасьцейшы, лацьвейшы, вышэйшы, весялейшы.
Не ўспамінай пра падэшвы, калі скрыдлы растуць з рамёнаў.
Але сьцеражэцеся, каб не прыпадобніцца да Ікара.

298. Чаму зрок напрыканцы жыцьця стаецца дальнабачным?

Досьвед скіроўвае нашае вока ўдалеч, і цяпершчыну

засьціць імгла.
Гэтак і вы атрымліваеце веды будучыні,
Праходзіце цяпершчыну і не паглыбляецеся сярод
балотных купінаў.
Але чыннасьць перад усім.
Папраўдзе кажу: птушка ў лёце часам бывае карысьнейшаю
ад удзірванелага чалавека.

299. Чую: ворагі будуць дзівосным вагнём пабітыя.
Настаў час дзеяў.
Уведайце адданасьць, і веру, і мужнасьць.
Акрыю вас шаломам веры і латамі адданасьці
і тарчой перамогі.
Але на Харугве будзе Пераможнае Каханьне.

300. Розум расьце з кожным днём.
Дабрыня ляціць насустрач шчасьцю.
Ды мост між Намі – духовасьць, можа весьці да гары
альбо зьнікнуць імгненна.
І гэтую прорву не засыпаць усім каменьнем
створаных гораў.
І таму шануйце краску Адаманту.
На лёдзе яна не красуе.
Латва быць садоўнікам, цяжка выгадаваць духовае насеньне,
Але калі Стваральнік даў магутнасьць мосту да Нас,
Ідзеце і захоўвайце полымя.
Скажэце падарожнікам: “Ведаем, куды йдзем”.

301. Вусны мае змоўкнуць,
Я спасьцігнуць тарчу Ласкі не змагу,
калі каханьне адляціць.
Я спаду ранкам, калі ўночы зьвіну
скрыдлы мае.
І што разьвіну насустрач слонцу?
Усьмешка мая – дзе ты?
І якая баразна працяла маё чало?
Дзе ёсьць сонечнае слова, якім стрэну сьвятло?
Што ёсьць вартым? Я гукаю, Я сьцьвярджаю –
Каханьне.
Я сказаў.

302. Ня трэба цаніць слова тлумачальнае.
Бяры цьверджаньне Першанастаўніка.
Я сказаў.

303. Вусны Настаўніка здымаюць засаўку.
Пакладзі сэрца на парозе промню сьвітанку, і засьцерагу цябе.
Расплюшчы вока насустрач хвалі, і засьцерагу цябе.
Я маю за шчасьце засьцерагчы сьцеражонае.

304. Набліжаецца час завершаньня даху.
Пастаўцеся да Храму з пашанаю,
І калі са Мною абыдзеце Пабудову,
Пашлем малітву да Творцы Сусьвету.
І дамо паводле працы ды заслугаў.
Запраданую, шчасьлівую веру ўзьяднаем.
Выправім новыя знакі, умацуем ветразі.
Усьведамце, што нельга плаціць за Набажэнства.

Памерла вера пад золатам.
Тарча залатая ня ёсьць трывалаю.

Я мудрых клічу.
Новыя й патрэбныя зьбяруцца, і дрэва еднасьці закрасуе.

305. Папытаюцца: “Дзе ж доказы?
Цяпер гэтак шмат ілжэпрарокаў”.
Адказвайце: паводле справаў толькі судзім.
Зважаем толькі на скуткі.
Бо лжэпрарок вядзе да хлусьні.
Хлусьня сканчаецца злом, і тады ўбачыце крывую дарогу.
Таму рахуем толькі справы.

Настаўнік ведае наш шлях,
і галасы, што перашкаджаюць, аддаем на Ягоную Волю.
Судзеце паводле справаў.
Я сказаў.

306. Трэба жніво зь сярпом прайсьці.
Кожны колас рукою занесьці да жытніцы.

Чыстае зерне дыханьнем адвеяць.
Рэшту непатрэбных кастроў спаліць у вагні.
Так адбіраем зерне будучыні.
Я сказаў.

307. Анішто не зьнішчаецца без прычыны.
Для кожнага кліч прызначаны.
Ды сонныя вушы не пачуюць анёлаў, якія трубяць у рогі.
Занятак дробязнымі справамі ёсьць трывальшым
ад муроў Ерыхону.
Ці няма старога сьмецьця ў вушох вашых?
Я сказаў.

308. Што ж рабіць з гэтымі палахліўцамі?
Што ж рабіць з тымі бязвольнымі седакамі?
Што ж учыніць са знаўцамі дню заўтрашняга?
Цяпер ёсьць багата знаўцаў, але скажу ім:
“Адкрыйце вушы”.
Але Я скажу: “Адмыйце рукі,
перш чым напішаце.
І голас прачысьцеце, перш чым гукнуць
паспрабуеце”.
Я кажу, Я кажу, Я ім сказаў.
Сьведчу.
Сам спыню, калі знайду час.
Але цяпер ідзеце.
Мая Рука з вамі.
Так. Так.

309. Сярод засоваў. Сярод зьбіцьця.
Сярод маўчаньня. Сярод паўстаньня.
Сярод іх. Сярод тых.
Памятайце пра Мяне.
Моц заўжды з вамі.
Вучню, хіба баіцца ракаўка аксамітнага прыліву хваляў?
Не лякайся прыліву.

310. Думаю, што дух для ўсяго час знаходзіць.
Калі маяк штодня гатовы ратаваць падарожных,
Як жа мусіць палаць збавенным вагнём
Маё войска!

І вагонь чыннасьці запаляе іншыя вагні.

311. Ужо ведаеце: дабрата і розум яшчэ не прыводзяць да Нас – неабходнай ёсьць духовасьць.
Але гэтая рыса прыходзіць у хвілю гатовасьці духу.
Анішто ня можа прысьпешыць абраньня шляху.
Нават кліч бязплодны, таму не шукайце пасьлядоўнікаў,
Ды затое клапатліва страчайце тых, хто стукаецца.
Сорам праспаць стук сэрца – лепш памыліцца, чым закапаць у яму акрыленае жаданьне.

312. Вучань, нашто думкі пра нязбытнае?
Не марнуй сілы ў гібеньні духу.
Лотас Мой ёсьць радасьць для наведвальнікаў Майго Саду.

Дзеці! Дзеі, дзейнасьць, чыннасьць.
Думкі пра дабро ўздымаюць да вібрацыі душы Настаўніка.
Памятай, душа Настаўніка – гэта ваш дом.
Не забывайся на Яго ў імкненьні да Дабра.
У імя людзтва кажу вам.
Настаўнік заўжды ля дзьвярэй вашых,
Але пакіньце дзьверы адчыненымі.
Чакайце Яго, і Ён адкажа на ваш кліч,
Гэтак жа як краска адказвае на кліч ранішняга слонца.
У Імя Маё ідзі праз жыцьцё і пераможаш цемру.
Дажджавая хмара не замочыць вас, і пякельнае слонца ня ўчыніць вам пакутаў.
Бо Я ваш Абаронца і Сябра і Айцец.
Дзеці, дзеці, любыя дзеці.

313. Ня думайце, што Нашае Брацтва схавана ад людзтва за непраходнымі мурамі.
Сьнягі Гімалаяў, што хаваюць Нас, ня ёсьць перашкодаю для тых, хто шукае папраўдзе, але не для цікаўных.
Адрозьнівайце шукальніка ад сухога скептыка дасьледчыка.
Паглыбцеся ў Нашую працу, і Я дапамагу вам

на шляху да Таго Сьвету.

314. Мы выпраўляем да вас вестку гэтую.
Няхай каменьне скажа праўду.
Няхай травы й дрэвы запяюць Хвалу Стварэньня.
Але пакіньце чалавеку чыннасьць.
Бо ў чыне схаваны плод ягоных імкненьняў.
Птушкі не памятаюць сваіх справаў ды справаў іншых,
І таму яны варочаюцца да старых гнёздаў.
Дык дайце чалавеку забыцца на свае памылкі,
і дайце яму мкнуцца па шляху
Вялікага Маўчаньня і Дабра.
Вялікае Маўчаньне ёсьць як шум акіяну
ды цішыня пакінутага дому.

315. Мы пастанаўляем і выпраўляем вам у праменьні сьвітанку
Нашае Слова.
Не ўва сьне, не ў жаданьні,
Ды ў еднасьці духу, у яснасьці Ласкі Боскай
вы ідзяце, як ідзе высланьнік, і несяце
вестку Нашую.
І не дыскутуйце шмат, але дзейце.
Не сядзеце ў роздуме, але стварайце, але знаходзьце.
І Я Сам – ваш Памочнік.
Так, так, так.
Я сказаў.

316. Ухілецеся ад тых, хто ня чуюць.
Абмінеце тых, хто ня бачаць. Так.
Валодайце!

317. Разумей ды зважай.
Ведай свой шлях.

Валадару, дай моцы майму сэрцу і магутнасьць маёй руцэ.
Бо я ёсьць служэбнік Твой.
У Праменьні Тваім я ўведаю вечную праўду Жыцьця.
У Голасе Тваім я пачую сугучча Сусьвету.
Валадару, я аддаю Табе маё сэрца.
Афяруй яго ў імя збавеньня Сусьвету.

Ведай праўду, вялікую праўду вечнай повязі
Айца з Сынам і сына з сынам.
Плады й краскі Майго Саду даступныя ўсім,
Будзьце ахоўнікамі Майго Саду.
Пастаўлю вас ля Брамы Маёй, і зьвястуеце вы
ў Імя Маё.
Маё Слова будзе з вамі.

318. Ціха шэпчам да чуйнага вуха, і прагненьне вашае
можа данесьці Наш Голас.
Промень Наш, як маяк, шукае ў цемры, і карабель
па промню дасягае да прыстані.
Змрок не павінен існаваць для вас.
Папытаюцца: дзе ж пошукі дасканаласьці?
Адказвайце: у Каханьні, Красе й Чыннасьці –
Гэтых трох шляхоў дастаткова.

Нават пад дрэвам адчуваеце сябе ў бясьпецы.
Нават пад скалою адчуваеце сябе трывалымі.
Але як узмоцніцеся пад Маім Промнем!

У маўчаньні і ў крыку голас ваш дасягае
да Нашае Вяршыні.
І як праменьне маяку скрозь імглу няяркае,
Ды Наш Промень гарыць сярод вашых.
Гарыць Промень Наш, і ў маўчаньні мора шукайце Нас.

319. Папытаюцца: чаму вашая кніга не падобная
на іншыя кнігі?
Скажэце: там павучаньні цішыні,
У нас жа кліч бітвы.
У пая’сьненьнях, наказах ды ўхваленьнях –
гук бітвы ды дзеяньня.

Час дае новыя шляхі.
Зьдзяйсьняе дух скокі над бяздоньнем.

Помач вам, хто рынуўся,
Помач вам, хто забыўся на час ды цела.
Помач вам, хто загучаў.

Чуйнае Вока ёсьць над вамі.
Арлы лунаюць як вестуны.
І чарапахі дар тарчы прыносяць.
Цуд, цуд, цуд дзеецца.
І воі пачуюць Наказ.

320. У мгле адшукаеш шлях, бо Я з табою.
Ведай невымернасьць вечнага тварэньня:
Форму без абрысаў, Гук бязгучны.
Разумей радасьць тварэньня ды ўзрадуйся
Мудрасьці Творцы.
Хвала Вечнага Існаваньня зьзяе ў зорках, і пра Моц
Ягоную сьведчаць найвышэйшыя горныя вяршыні Зямлі.

Па далох ды гарох, па лясох ды палёх
ты вандруеш у пошуках Настаўніка.
О неразумны, нашто хадзіць далёка?
Я тут – твой Настаўнік.
У душы сваёй перахоўвай думку пра слугаваньне Богу.

О Валадару модлаў маіх, будзь літасьцівым
да імкненьня майго!
Не асудзі мяне за памылкі мае.
Дух мой сьпявае песьню – Тваю Песьню.
Ды прыстала цела маё, і члункі мае ня слухаюцца мяне.

Вучню, знайдзі сілы завершыць імкненьне.
Мацуйся! Цела не павінна замінаць шляху твайму.

Настаўніку, я бачу Аблічча Тваё, я сузіраю Ласку Тваю.
Вучню, тут Я, ды ў сваёй сьлепаце ты забыўся
на Прысутнасьць Маю.

Вечнаю, невымернаю, вялікаю ды ўзвышанаю ёсьць Праўда,
Але шукальнік падыдзе да яе лёгка і авалодае ёю.

321. Сузірайце прыроду, калі знаходзіцеся сярод яе.
Пачуйце моц тварэньня ў кожным гуку пустыні.
Настаўнік стаіць за кожнай праяваю вашага духу.
У Ягоных Промнях здабудзеце вы радасьць творчасьці.

Дзеці, не шкадуйце часу ў шуканьні Праўды.
Вялікія мудрацы здабывалі яе ў напружаным шуканьні.
Верце ў свае сілы ды ведайце, што вы абраныя Ім,
вашым Айцом у духу.
Калі ў імгненьне слабасьці вы пахісьнецеся на шляху –
працягнеце руку, і дапамога прыйдзе.

322. Скажу тым, хто стукаюцца:
На шляху вашым можа стрэцца духовасьцю
напоўненае начыньне.
Здолеце распазнаць яго.
Калі пазнаеце, імкнецеся падысьці як мага бліжэй.
Памятайце: духовасьць як полымя ўзгараецца,
як дзівосны магніт набліжае да сябе.
І таму шчасьце наканаванае не адхілеце.
Можам паклікаць, але гэты кліч не паўтараем
ізноў.
Трэба мець адчынены шлях.
Кажу ўсім, хто плішчацца ў цясноце рукатворных
сутарэньняў:
Прыйдзеце, хто чакае радасьці, – сьвята наладжанае.
Я сказаў.

323. Думайце пра зоркі, якія заўжды выпраменьваюць
сваё
сьвятло людзтву.
Будзьце як зоркі і абдорвайце сваім каханьнем,
мудрасьцю ды ведамі іншых.
Толькі калі аддамо ўсё, мы можам атрымаць.
У Імя Маё вы працуеце – не забывайцеся пра гэта.
Памятайце пра гэта асабліва.
Скрозь нясеце Маё Сьвятло з сабою.
Якая карысьць з высланьніка, які хаваецца
за непраходнымі мурамі?
Настаўнік ёсьць з вамі, і вы ладзьце
з наступнікамі вашымі.
Згода, лад, гармонія.
Не шкадуй аб выбраным шлясе; забудзься на ганарыстасьць
і будзь адкрытым для Новага.
Ведайце!

324. Я кажу вам: няхай полымя вашага сэрца
палае вагнём спагады.
У спагадзе закладзена велькая пэрліна
Патаемных Ведаў.

Усе Бодхісатвы, усе сьвятыя, усе гэроі духу
імкнуліся па гэтым шлясе.
Памятайце паданьне пра Сем Брамаў.

Цярновы шлях не для ўсіх усланы цернямі.
Ёсьць душы, для якіх і цярновы вянок лепшы
ад кароны каралеўскай,
І сярмяга лепшая ад пурпуры імпэратараў.

325. У лесе шукайце Маіх наказаў.
У гарах слухайце Мой кліч.
У звоне крыніцаў услухоўвайцеся ў Мой шэпт.
Ды хіба гэта людзкі шэпт?
Не, гэта грукат акіяну, альбо грымоты ў вяршынях.

Я ў цябе пытаюся, дзе твая прашча, каб працяць
ворага?
Будзь гатовым да бітвы.
Я за табою.

326. Трэба памятаць пра агнічку моцы Нашае,
разбудзіць яна мёртвага.
Але як сьвятляк паступова губляе яснасьць,
так лёгка згасіць агнічку Нашую.

327. Памятайце пра сьвежасьць часу на золку.
Зімнасьць раніцы – цудоўны трунак для вашай істоты.
Сьпяшайцеся карыстацца ім.
О красаваньне кветкі Лотасу!
Мроя сноў абраных,
Пэрліна зь сямю кантамі!
У Табе схавана веданьне сьвету.
У Табе нараджаецца імкненьне да ўведваньня
Таямніцаў.

Запаветны спраце Таямніцаў,

Даёма жывой вады,
Вялікі гаіцелю сьвету,
Душа, што чувае над страхамі людзкімі!
У Тваім зьзяньні купаецца Твой адданы слуга,
Які абраў Цябе сваім здабыткам.

О Валадару Найвялікшай Мудрасьці Брамы Нябеснай!
Пасад Свой усталюй на найвышшых вяршынях.
Стуль Табе лацьвей відаць трывога людзкіх сэрцаў.

О Валадару, названы Літасьцівым!
Угледзь Сваіх сыноў у цямрэчы людзкой.
Цемра, цемра, цемра.
Сьвятло, сьвятло, сьвятло.
Бязь цемры не было б яснасьці сьвятла,
Бо толькі ў цемры відаць сьвятло.
Дзе знаходзіцца Ён, Валадар, –
Няма ані сьвятла, ані цемры –
Усё ёсьць Адно.

Гэта Таямніца Таямніцаў,
Сьвятасьць над Сьвятасьцю.
Не зразумелае людзьмі, Яно застаецца ясным;
Зразумелае людзкім розумам, Яно губляе сваю
празрыстасьць.
Такі ёсьць закон.
Хадзеце за штандарам бітвы.

328. Цераз пустыні, акіяны й горы пераносіцеся
ў вадзіным уздыху.
І вось стаім твар да твару.
Не існуе прасторы. Зьнік час.
Зьявілася магутнасьць ведаў.

Чы латва на скрыдлах ляцець?
Скажу – латва тым, хто чуе скрыдлы.
Ды ня лётаць тым, хто зьведаў слодыч зямную.
Куды ім ляцець ад свайго куміра?
Гэтак на справе пазнаеце нікчэмнасьць
зямных жаданьняў.
Проста, бо ўсё ёсьць проста.

Узвышайцеся задумамі, узвышайцеся цьверджаньнем,
узвышайцеся каханьнем.
Пачуцьцё ўведае радасьць лёту.
Зноў вір жыцьця застанецца пад нагамі.
І дзіва радасных барваў заблішчыць у зорах
Паўднёвага Крыжу.
Усё ест даступна.

329. Нашто пакутаваць, заморваючы цела?
Нашто зьнішчаць дадзенае вам Стваральнікам?
Шукайце новых шляхоў!
Знайдзеце свой шлях сярод цяжкасьцяў жыцьця.
Я тут – кажа Настаўнік. Будзьце адкрытыя да Нас.
У жыцьцё не паглыбляйцеся.

О Ты, Стваральніку Сусьвету, Ты, Вяршыня Нябесная,
Хвала Хвалаў!
Высокае Непраяўленае ў Пачатку,
Праяўленае ў Канчатку!
Так, так, так!
Што ёсьць Канчаткам, што ёсьць Пачаткам?

Уведайце вашае памкненьне.
Радуйцеся на шляху.
Будзьце ўдзячнымі Даёме ўсіх Скарбаў.
Яна пачуе малітву і сярод вулічнага тлуму.
Не ўпадайце ў вадчай.

Стукайцеся ў дзьверы. Замок не замкнёны,
І Гаспадар чакае вас у хаце.
Не каштуйце прысмакаў са стала Гаспадара,
Але зважайце на Словы Ягоныя.

330. Дзеці, будзьце падрыхтаванымі да вялікай
няўдзячнасьці.
Можаш аддаць тваё найдарожшае, і не заўважаць
таго.
Але не шкадуй.
Вандроўніку, ты мусіш аддаць тваe рэчы,
што замінаюць.
І чым болей аддасі, тым лацьвей табе будзе

працягваць шлях твой.
Падзякуй тым, хто забраў ад цябе.
Яны дапамогуць. Яны пра цябе паклапаціліся.
Бо хто йдзе ўлегцы – латва дасягае да вяршыні.
І вы навучыцеся даходзіць да вяршыні.
І таму дзякуйце няўдзячным.
Я сказаў. Я выправіў вам Дабро.

331. Працуйце. Шлях адчынены для працы.
У вашых рукох ёсьць найвялікшыя мажлівасьці.
Мой вянок няхай жа будзе з вамі, бо Я даў вянок.

Стойце на варце. Чакайце дапамогі Нашае
ў кожную хвілю.

Ведайце, што платы чакаць няможна –
Плата не для вас.
Вы, хто дзееце, мусіце йсьці па вашым шлясе сьмела,
Бяз думак пра небясьпеку ці радасьць заўтрашняга дню.
Памятайце, што Я вам сказаў.
Не каштуйце страваў са стала Гаспадара,
нават калі Ён вас запросіць.
Бярэце толькі тое, што дадзена на дабро справы вашае.
Плата йдзе, але чаканьні не даюць вынікаў.
Хіба Хрыстус, Укрыжаваны, думаў пра збавеньне
Сваёй Душы?
Нават у малой меры імкнецеся прыпадобніцца да Яго.

Спагада, літасьць, жаль.
Заклікаем, заклікаем вас ужо шматкроць –
будзьце гэткімі.

Дзеці, вучні, дзеці Мае, будзьце шчасьлівымі!
Найвялікшая радасьць ёсьць блізка.
Сьведчу Сам. Сцьвярджаю.

332. Калі скрозь рызьзё вашых выпадковых
абалонак зьзяюць абрысы духу –
Ці ня чуеце вы магутнасьці ды радасьці?
І ці не зьліваюцца ўсе істоты вашыя
ў вадной радасьці працы духу вашага?

І тады Я ёсьць блізка ад вас.
І тады вашае вуха чуе шэлест крокаў Маіх.

333. Ты, хто маеш вуха.
Ты, хто маеш вока расплюшчанае.
Ты, хто ўведаў Мяне.
Дабро табе.

Імя Маё – талісман для цябе куты.
І няхай жа глыбі Нябёсаў будуць для цябе ласкавыя.
Дабро табе.

Скіруй зрок як сокал удалеч.
Гэта ёсьць рада Мая.

Вы, вучні Мае, мацуйцеся.
Марце пра будучыню – і ўгледзьце адраджэньне сьвету.
Не забудзьцеся пра жаль ў сваім імкненьні.
Ведайце!

Памятайце, што мастацтва ёсьць адзіным жыцьцёвым
сродкам выяўленьня будучай Культуры.
Цераз Красу падыдзеце.
Усьведамце і запомніце.
Вам даручыў сказаць – Краса.

Ты сказала – Каханьне.
Той сказаў – Чыннасьць.
Вы сказалі – Краса.
Калі хочаце адчыніць Браму, прыкладзеце гэты знак Мой.

Я сказаў – Краса.
І ў бітве, і ў перамозе Я сказаў – Краса.
І параза ахінулася Красою.
І горы закрасавалі Красою.
А вы краскі Красы дапусьцеце, іх дапусьцеце – дзяцей.
І схілецеся прад Тым, хто прынёс Красу вялікага Сьвету.

Усьведамце: няма рэчаў, няма разважаньняў, няма ганарлівасьці,
няма пакаяньня, ёсьць яна – Краса.

І запаведую вам:
Ахоўвайце і пакажэце і сьцьвердзеце яе – Красу.
У ёй шлях ваш ёсьць.
І ёю спаткаю тых, хто дойдуць да Мяне.
А яны ўжо йдуць.

334. Вашая радасьць ёсьць Нашаю радасьцю.
Калі чароўная краска пяшчоты на зямлі закрасуе,
У той час новая зорка запаляецца ў Бязьмежжы.
Незьлічоныя ёсьць зоры.
Млечны мост шчасьця злучыў усе сусьветы.

Валадару, птах шчасьця хоча сьпяваць на маім вакне.
Я не зразумею ягоных словаў,
Ды я буду дзёрзкім.
На золку я ўцямлю адно слова.
І сэрца маё запяе:
Апраўданы, апраўданы, апраўданы.
Няўжо за адное слова, за пяшчоту я магу быць
 апраўданы Табою,
Хто саткаў тканіну вечнага ладу і зьзяньня?

Сыне Мой, пяшчота ёсьць часткай Праўды.
А Праўда ест у прыўкраснай і шчаснай…….
Памятай пра гэта, сыне Мой, і апоўначы.
Я на досьвітку да цябе пастукаюся.

Яшчэ адзін дзень, і закрасуе краска вашая.
І проста вы прамаўляеце словы пабудовы Сьвятыні.
Я бачу ўсьмешку, і чую Я сьмех нават.
Добра, калі пабудуеце, калі складзіцё каменьні
 і сьмехам змацуеце іх.
Радасьць сусьветам!
Я сказаў.

335. Вандроўнікі, нашто імкнецеся па вашым шляху?
Дзе вашая мэта?
Ды хіба мэта ў вас наогул ёсьць?

Нашая мэта ёсьць там, дзе водны шлях пераходзіць

у шлях аблокаў, дзе лясы здаюцца толькі аблямоўкаю.

Ці не адпачніцё, вандроўнікі, ля дарогі?
Ці не паспытаеце вады з чыстай крыніцы?

Не, нам трэба дасягнуць да мэты.
Змрок ужо ахутаў дальнія скалы,
І салавей прасьпяваў свой сьпеў у бліжнім лесе.
Нам трэба наперад.

Хадзеце, вандроўнікі, вечаровая сьвежасьць
дасьць вам прахалоду на шляху.

Ідуць вандроўнікі. Бліжай становіцца мэта.
Воблачны шлях згрудзіўся як гмах.
Ды шлях яшчэ далёкі, і змрок згушчаецца.
Самотныя вандроўнікі – глядзеце наперад.

А па дарозе ішоў Незнаёмец.

Няхай Ласка Боская будзе з вамі!
Я сказаў.

336. Вадаспады й зёлкі, птахі ды вецер пяюць мне.
І ў руху маім нараджаецца сьпеў.
Я йду лёгка…
Але як змаўкае вецер і адлятаюць птушкі
і буцьвеюць травы, што мне чыніць, Валадару?
“Зірні на Мяне”.
Калі горы нараджаюць вяршыні
і прорвы насоўваюць на мяне новыя хрыбты гораў,
Калі я прайшоў праз усе пустыні, і калі я ўзышоў
на ўсе горы, што ўбачу, Валадару?
“Убачыш Мяне”.
Ланцугі шчасьця і ланцугі нявольніка.
Нявольнік валачэ ланцуг,
Ды зьвіняць сьмехам колцы шчасьця.
Валадару, як адрозьню ланцугі?
“На чуйнае вуха”.

337. Хто ёсьць з Намі, мае калі-небудзь часіну змаганьня,
але ведае: ён заўжды пераможца.
Зьвярнеце ўвагу на тых, хто кліча – як хараша!
Яны ня толькі чуюць красу, але й хочуць падзяліцца ёю.
Падзяліцца – зарука перамогі!
І словы, што адчыняюць, ёсьць простыя.
Ды мала хто прыкладае іх да засавак.

Чуем сьвята працы.
У полымя ачышчэньня кідаеце забабоны
ды рэчы, што перашкаджаюць.
Якое раскошнае вогнішча на скале асьвятляе шлях!
Памкненьне адчыняе новыя шляхі.

338. Чый стукат Я чую?
Гэта ты, зьбяглец!
Я скажу табе так:
Ты пайшоў упрочкі ад Мяне з гэткім жа дбаньнем,
Як будаваў раней Мае дамы.
Ты спрабаваў схавацца ў сьвяцілішчах храмаў,
Ты хаваўся за сходнямі тронаў,
Ты, зьмяніўшы аблічча, ахінаўся заслонаю шатроў.
Ты хацеў расплысьціся ў гуках флейты ды струнаў.
Куды ж уцёк ты?
Вось стаіш прада Мною, але Я кажу:
Ты прыйшоў да Мяне. Ты знайшоў дзьверы Мае.
Ты ўведаў, якім цьмяным стаўся розум і як сышла
твая радасьць.
Ты ўведаў, як той, хто стукаецца, будзе дапушчаны,
І як дапушчаны будзе апраўданы.
І ты знайшоў найлепшыя дзьверы і пагукаў, бо ня бачыў
канца ўцёкам.
І прыйму Я таго, хто стукаўся, і скажу яму:
Я захаваў тваю радасьць,
Бяры сваё начыньне і працуй.

І ты – ты ведаеш ужо, што ўцёкі ёсьць марныя.
Вось стаіш ты і падыходзіш да дзьвярэй,
І твой захаваны келіх чакае на цябе.

339. Радасьць! Няма часіны шчасьця цяперашняга.
Ест час шчасьця мінулага,
І ест час шчасьця будучага.
Мінулы час аддаляе,
Час будучыні набліжае.
І Я даў вам час шчасьця будучага.
Радасьць! Усё, што аддаляе, ня ёсьць вартым для вас.
Жывеце часам шчасьця будучага.
Радасьць!

340. Вучэцеся тарчу сьцерагчы.
Трэба спрабаваць – імкнуцца дасьціпна дасягаць.
Новае ёсьць цяжкім, старое непрыдатна.
Хмары няхай не заслоняць гораў.
Ані самаапраўданьне, ані ўхіленьне не дапамогуць.
Толькі стваральная праца вядзе да перамогі.
Працу зразумейце шырока.
Завіруха засьціць вочы, але духу не замяце.

341. Дух шануйце.
Адданасьць даказваецца справай.

342. Дзе ж малітва?
Дзе мантрам, дзе замова й зварот?
Я скажу маю малітву,
і скажу яе як прад аблiччам слонца.
Калі вачом маім невыносным ёсьць сьвятло сьвету,
я іх заплюшчу.
І, напоўненая яскаркамі зьзяньняў,
я ўсё-ткі скажу:
Вось я ведаю шлях мой, вось я зьвярнулася да яго
ўсёй сьведамасьцю маёй.
І, адхіліўшы ворагаў ды пахаваўшы рэчы,
я іду да Цябе.
Маё слова да Цябе і ёсьць малітва мая.
Кажу і ўдзень, і пры варштаце працы,
і падчас начной варты, калі вочы не адрозьніваюць
больш мяжы неба й зямлі.
Колькі рыхтаваньняў, колькі думак ды стаяньняў,
каб вымавіць да Цябе адно маё слова:
“Я кахаю Цябе, Божа”.

Уся малітва мая.

Гэтак доўга рыхтавалася да яе, гэтак чакала я майго мантраму, ды ён таксама кароткі:
“Не выракайся, Божачка!”
Ня маю чаго дадаць да гэтага слова.

І цяпер замова:
“Божа, Ты ня сыдзеш ад мяне, я знайду Цябе, бо ведаю ўсе дамы Твае, Ты ёсьць ува ўсім!”

Даруй, Божа, простая малітва мая,
Кароткі мантрам мой, і дакучлівая мая замова.
Але калі мне не сысьці ад Цябе,
дык і Ты не схаваесься ад вока майго.
І вуха маё чуе крок Твой.
І ў роце Твой Боскі смак,
Бо Ты – мая ежа.
Ці пасьпею саграшыць Табе, Божа?
Ня думаю, што малітва мая годная,
і што мантрам дойдзе да Цябе.
Але я затрымаю ў руках маіх шаты Твае.
Ах, Божа, я буду дзёрзкай,
І дзёрзкасьцю скраду акіян шчасьця, бо хачу.

Так сказаў – прымеце, стварайце ды ачысьцеце дзьверы.
Яны могуць штурхнуць вас, але прайдзеце з усьмешкаю.
Той, хто ведае, той ідзе і прыходзіць.

343. Яны выхваляюцца атрыманьнем Нашых навучаньняў, але не зракліся аніводнае звычкі.
Крокі іхныя поўныя сумневу, і словы іхныя насычаны здрадай.
Купаюцца ў хатняй лужыне і прымаюць яе за акіян.

Асабліва сьцеражэцеся здрады.
344. Новыя выявяць сябе ў дзеях.
Заслоняцца тарчою Красы і, напоўненыя каханьнем, адчыняць дзьверы тым, хто стукаюцца.
Праваліцца зямля пад нагамі сьляпога, і перакуліцца глухі.
Дасылаю вам жывую ваду прамыць вочы ды вушы.

І цуд спраўдзіцца, і мост Красы правядзе ў новы шлях.
Я сказаў.

Божухна, якая ж тут шэрая мая вопратка!
І куды завяла мяне баязьлівасьць?
Ды ў непагадзь, калі пацямнее слонца
 і зачыняць людзі дзьверы дамоў сваіх,
Выйду я сам адзін і, поўны сьмеласьці, дайду да Брамы
 сялібаў Тваіх.

І бяруся я за колца,
І стукаю ім, пакуль не падымецца да Брамы
 Твой Сьветлы Вартаўнік.
І кажу я : "Вось прыйшоў я, вось не сыду я,
 бо мне няма куды йсьці".

І калі Вартаўнік усім зьзяньнем сваім
 засьціць Браму Тваю,

Не сыду, Ойча, і дачакаюся Праведніка і за
 Ім прайду я Браму, бо праходзяць Праведнікі.
І за Ім, Табою абраным, я прайду
 ў Сьвет сялібаў Тваіх.

Агалосім, Ойча, трубою на бітву!
Мая труба і мой рог малыя,
Але я ды ўсе са мною таксама затрубяць.

345. У старажытных культах заўжды заставаліся
 прыкметы духовых навукаў.

Нават стары карагод захаваў пачаткі духовасьці.
Пасярэдзіне кола месьцілася абраная,
 радзей абраны.
Вакол яе адбываліся рытуяльныя рухі і сьпяваў хор.
Асяродкавая абраньніца заставалася нібы ў бязьдзеяньні.
Але ўсе рухі ды словы зварачаліся нібыта да яе.
І яна несла на сабе сэнс усіх памкненьняў.
Гэтаксама ёсьць і ў навуцы Духу.
Вучань атрымлівае ясноты радасьці.
Атрымлівае бяздоньне шуканьняў.
Атрымлівае крыгу самоты.

І потым мусіць прыняць на сябе цяжар засяроджаньня.
Нібыта сам адзін, нібыта безгалосы,
Нібыта без дапамогі,
Ён нясе на сабе ўсіхны цяжар.
І гэткі ж супакоены, бы ў крызе самоты,
Ён чакае і з гатовасьцю прымае цяжар зваротаў.
Нібы падмурак пабудовы, моўчкі ён дае абвінуць сябе.
І множыць у дзесяцькроць рукі свае,
І пашырае сэрца сваё,
І павінен вырасьці духам
На ўсіх, хто зьвяртаюцца.
Ды не лякаецца ён. І ведае, што ягоны час надыходзіць.
І тыя, хто стукаюцца, і хто пужаюць, і абцяжарваюць,
яны мусяць прыйсьці.
І ён павінен спаткаць іх.
І нейкі час ён атачоны імі, і зачынена выйсьце ягонае.
Ды няма вечнага выпрабаваньня.
Але блізка ёсьць мажлівасьць найбліжшага шляху.
Гэткі цяжар засяроджаньня.
І добра, калі цягнуцца да вас рукі сяброў.
Калі карагод сплятаецца з добрых зычэньняў.

346. Не шукай удзень вечару.
За плугам, ратаю, не кажы малітвы спачынку.

347. Пра каханьне магу сказаць: у чыстых душаў
яно мкнецца ўгору, а жаль хіліцца дадолу.
Льга кахаць Бога, належыць уявіць Яго
дзівосным пакутнікам за творчыя думкі
на дабро Сьвету.
Льга даверліва і нават дзёрзка стукацца
да Ягонага Храму.
І калі стуканьне сьведамае, дык у вадказ атрымліваеце
новую моц, хоць і не адразу ўсьведамленую.

348. Шмат непаразуменьня ёсьць у вакіяне людзкім.
Дух ведае, але трэба праявіць над вагнём тыя знакі.
Вагонь дзеяньня жыцьця гадуе скрыдлы духу.
У марскіх глыбінях знаходзіцца соль,
але толькі праца плыні праяўляе яе.
Як салаўінае яйка ўтрымлівае эмбрыён сьпевака,

але сьпеў загучыць толькі пасьля дзеяньня жыцьця.
Шчасьлівыя сьпевакі, сьпявайце на Хвалу Ўсьмешкі Стваральніка!

Няма ані малых, ані вялікіх.
Пачуцьцё, кінутае ў прастору, як бумэранг варочаецца да вытоку.

349. Новым вер!
Настаўнік мае моц узьняць тарчу дзеля вашага шчасьця.
Настаўнік чуе руку, што просіць дапамагчы.
Настаўнік гатовы дапамагчы.
Настаўнік можа выправіць новых.
Настаўнік можа выправіць Навуку.
Настаўнік уважае сьмеласьць за гэройства.
Настаўнік дае моцы адданым.
350. Вучылі пра гэрояў старажытнасьці – чаму на мяжы расаў ізноў не зазьзяе гэройства?
Тарча Нашага Брацтва гатовая бараніць шуканьні сьвятла.
Найлепшыя вашыя праявы, як зерне, сагрэтыя Намі.
Шчасьлівымі ёсьць шляхі прыгажосьці, нястача сьвету мусіць быць спатолена.
Цуд Новага Жыцьця схаваны пад лахманамі, але ён жыве.
Не клапацецеся з-за шуму жыцьцяў: калі чыгун кіпіць, шумавіньне зьбіраецца наверсе.
На шляху гэроя няма страху,
Але вагонь сэрца асьвятляе шлях праўды.
Праўда Вечнасьці ёсьць у красе духу.
Дух ведае, дзе ёсьць краса.

351. Туга міне новы карагод людзтва.
З усьмешкаю дзіця здыме меч бітвы.
Народ падыме сьвяты абраз.
Іду пустыняю, нясу келіх, тарчою прычынены.

Чаму пыл на афярным мейсцы?
Не гульня, не забава там, дзе ствараецца Сьвятыня.
Ня зайздрасьць, не вышукваньні там, дзе ўлада аддадзена прыгажосьці.
Прыбярэце сьмецьце.
Думаю, што псота не павінна хавацца ў шчылінах.

Ахінеце келіх.

352. Пыл латва здымеце, калі пасьпяшаецеся.
Аніштто не павінна заставацца ў занядбаньні.

353. КНІГА ПРА АФЯРУ
Якою сілай сьцьвердзіцеся?
Як дасягнеце выкананьня Нашае Справы?
Уладаю, Намі дадзенаю.
Ці мне казаць пра ўладу, калі ўсё неразумнае
 і ўсё пыхлівае да ўлады імкнецца?
Але Я кажу і сьцьвярджаю.
Але Нашая ўлада іншая: Нашая Ўлада – Афяра!
Паясьню нешматлікімі словамі.

Калі Курновуу Ўладар
Ствараў Залатую Браму,
Ён імкнуўся да Храму,
Але ўсё-ткі данёс сваю афяру.

Калі Салямон шукаў уладу Красы,
Калі сымбалем Суляміты быў паказаны
Сымбаль звышлюдзкай Праўды,
Ён усё-ткі застаўся цэсарам
І данёс сваю афяру.

Калі духовы настаўнік Тыбэту А-Лал-Мінг
Імкнуўся ў горы, дзе ўпершыню паказаўся Яму Бог,
Ён усё-ткі застаўся ў даліне
І прыняў чару.

Калі шэйх Расул ібн Рагім
Імкнуўся перадаць уладу сыну,
Ён усё-ткі пачуў Голас
І аддаў усё, каб дайсьці.

Калі настаўнік Арыгэн
Аддаваў і целавае і духовае,
Каб толькі навучыць іх астатняй навуцы Хрыстуса,
Ён усё-ткі захаваў цяжар Настаўнічаньня.

Калі Сергій з Раданегі
Ўхіліўся ад пасады Мітрапаліта,
Калі Ён імкнуўся размаўляць са зьвярамі,
Ён усё-ткі застаўся будаваць Дамы Агульнага Жыцьця,
І Ён захаваў вакол Сябе вучняў.

Калі Акбар, званы Вялікім,
Складаў каменьне яднаньня храмаў,
Душа Ягоная імкнулася пад Дрэва Мудрасьці,
Дзе сыходзіла на Яго праясьненьне,
Ды Ён усё-ткі застаўся на сходнях трону.

Ведайце, што ёсьць духовым чынам,
Ведайце, што ёсьць уладаю-афярай,
Калі ў часе сьцьверджаньня заваёвы прамовіце:
"Ойча, няхай абміне мяне чара гэтая" –
Азначае, што вы ўжо маеце права ствараць
І дух ваш ужо непахісны.

Запомніце гэтую кнігу пра афяру,
Бо яна дае вам браму да завершаньня і гатовасьці.
А як будзеце падгатаванымі, вы ведаеце ўсё,
Бо вам усё будзе адчынена і прынесена і расказана.
Але толькі расчынеце вушы і запомніце.
А найважнейшае, чытайце і паўтарайце,
Бо часта абалонка вашая засьціць веды духу.

Ўбачыце наканаваны пажар і скажаце:
"Вось чаму ўчора я вынес мае рэчы".
Зірніцё на бліскавіцу і схіліце галаў,
аддаючы пашану Волі Боскай.

Я сказаў і запаведаў – захоўвайце.

354. Каханьнем запаліце сьвятло красы
І дзеяньнем дасьцё сьвету ўратаваньне духу.

355. Гэтак і бывае, калі дух усьведамляе слугаваньне:
Новыя скрыдлы растуць, і паветра навокал сьпявае ўночы.
Шлях сьвятла паўстае прад зьдзіўленым вокам,
І вырашэньне розуму ўзводзіць сходы Храму

Адзінай Праўды.

Палепшыце глузды, прадзьмеце вушы, прамыйце вусны,
Самі станецеся сьведкамі свайго шаленства.

356. Навучайце Майму шляху.

Няхай яны здабудуць разуменьне людзкой натуры,
Зразумеюць Слугаваньне,
Зразумеюць радасьць Прыўкраснага,
Зразумеюць тое простае, што ператварае жыццё ў цуд.
Тарча Нашая нябачная, але ўночы чуеце
пацьверджаньне дзённых шэптаў.
У Нас не было больш складанага часу,
як гэтая зьмена расаў.
Трэба разьмяркоўваць сілы: кепскім ёсьць той хімік,
які замест кроплі перакуліць вядро.
Так! Нябачная бітва аніколі яшчэ не была гэткай вялікай.
Цяпер жа ў яе ўцягнута ўся зямная арбіта.
Не бярэце лёгка смуту сьвету.
Сілы гэткія напружаныя, што ўлева знакаў льецца на зямлю.
Калі заўтра скажу кнігу аб радасьці,
Не забудзьцеся на клічы бітвы!

357. КНІГА АБ РАДАСЬЦІ

Ці можа дрэва стаяць трывала?
Можа, можа, можа,
Калі карэньне ляжыць глыбока пад зямлёю
і ёсьць нябачным.

Я сказаў вам аб красе,
Я сказаў пра каханьне,
Я сказаў пра дзеяньне.
Я сказаў пра адданасьць,
Я сказаў пра гатовасьць ды спагаду.
Я паказаў вам вакно бітвы.
Я паказаў значэньне адвагі,
І, нарэшце, Я заклікаў вас да Вялікага Слугаваньня.

Але дзе ж ёсьць строі, каб у іх узысьці на сходні Сьвятыні?
Дзе ж тканіна годная,
Каб захінуць галізну ды цень целаў нашых?
Але па ўсім сьвеце трапечацца тканіна Жывога Пачатку.

Ва ўсім сьвеце жыве Ўбор Годны.
І трапечацца, і б’ецца, і гучыць Радасьць!
У гэтым уборы і ўзыдзеце на сходні.
Гэтай вопраткай вы ахінеце цела.

Яны разьдзіраюць тканіну Бога.
Яны глу□мяцца зь ейных шматкоў.
Але дачка сьвету і Матка Сусьвету спалучаць кавалкі тканіны.

І гатовымі вы падыдзеце, каб атрымаць строі вашыя.
Бо дзе ж ёсьць улада і дзе афяра, калі няма радасьці?
І дзе ён, жаль, і яна, адданасьць,
І дзе яно, каханьне да тварэньня,
Калі рамёны не акрашаныя наміткай Маткі Сусьвету?

І калі вы будзеце будаваць Храм Красы,
І на падыходах да яго раскінеце Сад Радасьці,
Дык назавеце Сад гэты Маім Імем,
Бо Я сказаў вам:
Радуйцеся, дзеці!
І калі пярэйдзем межы ўлады й афяры,
Ахінемся ў зьзяньне радасьці,
Мы скажам на наступны дзень пра малітву.

Гэтая кніга пра малітву і духовы чын завершыць першае трохкніжжа.

Радуйцеся, радуйцеся, радуйцеся!

І скажэце ім:
“Мы ведаем бітву,
І таму ёсьць радасьць у нас.
І мы ведаем Слугаваньне,
І таму радасныя твары нашыя”.

Выпраўляю Радасьць і Дабро і Праўду,
Бо тут ёсьць усё.

358. Трэба супрацьпаставіцца разбуральнікам моцаю стварэньня.
Здолейце заклікаць новых да пабудовы.

Працуйце на зьяднаньне.

Наблізіліся Дні Змроку.
Кажу вам: тарчу захоўвайце і майце надзею,
бо ўжо паказаў Мой знак.
Чую – шчасьце прыйшло, не расплёскайце.
І скрыдлы нясуць над сьветам шчасьце спраўджаньня
Нашых рашэньняў.
Назірайце зьявы.
Тарча Мая моцная.

359. Мы нясем пацьверджаньне запаветаў пракаў.
Чыстымі сходамі вядзем, і ніхто не пашкадуе,
што ён наблізіўся да новае расы.
Першая ўмова расы – несьці дух у жыцьцё.
І друзгі векавечныя стануць на сваё мейсца.
Промень разуменьня прыўкраснага жыцьця выблісьне проста.
Дух новым лётам абляціць сьвет.

Хоць і цяжкі, ды непаўторны час.
Хмары скрозь, ды Мой Промень з вамі.

360. КНІГА ПРА МАЛІТВУ

- Ваяру, няўжо зь дзідай ды з палашом
  ты ўступіш у сьвяцілішча Храму?
- Дружа, я выйшаў на гэройскі чын, як жа пакіну
  латы мае?
- Ваяру, Я захаваю твае латы на сходах ганку.
- Дружа, я прыйшоў асьвяціць мой набытак –
  як жа пакіну яго?

Ойча, спапялі маю руку, калі яна паднялася
за няпраўдзівую справу!
Ойча, спапялі мой розум, калі ён віруе
ілжывымі думкамі!
Ойча, зьнішчы ўсю маю істоту,
калі яна да злога імкнецца!

Сыне Мой, не пратну тваёй рукі.
Сыне Мой, захаваю твой розум, калі ты чыніш гэройства.

Але сярод дасягненьняў пакінь час для маўчаньня духу.
У гэты час Я даткнуся да тваёй істоты.

Момант Вялікага Маўчаньня вядзе да спазнаньня Слугаваньня.

Ойча, ад гэтай пары я скарачу мае сьпевы
І адкіну доўгія ўслаўленьні.
У духовым чыне будзе мая малітва,
І зачну яе маўчаньнем.

Брацьця, ва ўсіх вашых зачынах запомніце час маўчаньня.
У гэты час да вас датыкаецца вястун Наказу.
І ўсьведаміўшы малітву і духовы чын,
Асьветленыя красою, моцна трымаючы ўладу-афяру,
Вы дойдзеце да Храму.

*Канчатак трохкніжжа*

361. Перавяду ў жыцьцё адчуваньні вашыя, і таму заўважайце ўсё, што дзеецца вакол вас.
Трэба ўмець адрозьніваць выпадак ад наказу.
Новыя мажлівасьці растуць на разуменьні таго, што адбываецца.
Гэтак узводзіцца пабудова бяз страты каменьня.
Не надзея, ды справа вядзе будаўнікоў.

І сугучча камэртону перамагае сіпату людзкой немачы.

362. Над заранкаю разьвінем Нашыя харугвы.
Тарчы Ўсходу асьветлім сьвятлом Сьвятога Хаўрусу.
Выправім рамёны, Тарчою Нашаю пакрытыя.
І Голас пакрые справы кожнага дню.

Хочам сказаць пра вялікія справы.
Не засланецеся воблакам пылу кожнага дню.

363. Чысты дух набліжае час ушанаваньня і зьбірае часткі пагубляных духовых драбнічак.
Дапамогу Нашую – вока бачыць, і вуха чуе, і розум разумее.

Ня хутка з пылу адраджаецца заняпалы дух.

Трэба падаць руку ўсім, хто топяцца,
І полымя ўсьмешкі ня згасьне, бо яно ёсьць сагрэтае
 Боскім цяплом.

364. Так – так – так.
Я заклікаў вас.
Я назваў вас Сваімі.
І на пасе зьвіняць ключы ад дзьвярэй даверу.

Багата люду падыходзіла да гэтых дзьвярэй!
І нават спрабавалі ключ пакруціць,
Ды ня ведалі, як дзьверы адчыніць.
І ўпушчанае не паўтараецца.

Калі падыдзеце да замкнёных дзьвярэй,
Ня клічце старых мінакоў.
Не гукайце зноў тых, хто не адгукнуліся.
Для вас на кожным скрыжаваньні падрыхтаваны новыя.
І кожны камень пабудовы нясе Мой знак вам.
І калі ўзыдзеце і прыступіце да вежы,
Вымерайце ейны падмурак і акрэсьліце скалу пад ёю,
Бо з гэтае вежы ўбачыце далечы, вы, будаўнікі!

Я кажу коратка, каб вывучылі
І запомнілі, запомнілі, запомнілі
 тое, што Я вам сказаў.
Я сказаў.

365. Таямніца адкрываецца ў бясьпецы.
Ня трэба разбураць людзей грамадаю даверу.
Часта цяжар паклажы паказвае адно выгляд сьпіны.

366. Падыходзячы да гары, вы бачыце хаос каменьня
 ды вострыя скалы,
Потым наступяць страмніны скалаў.
За імі пачнуцца горныя лагчыны,
 якія жывяцца сьнягамі,
Але за вяршыняй сьнегу вы ўведаеце зьзяньне далечы.

Вы праходзіце калідорам жыцьця,
І ўздымаецца пыл ад вашых крокаў.

Колькі паклажы, колькі вырачэньняў,
 колькі боязі!
Дзе ж ён застаўся, скарб Сьвету?

Але калі вы несіцё з сабою звычайны каштоўны камень
 ці пекную пэрліну, няўжо ж забудзецеся на іх?
Ды не, вы прыхаваеце іх клапатліва.
Агледзіце спраты ды ўмацуеце зашчапкі,
Бо несіцё скарб зямлі!
Які клопат!!

Папытаецеся: “Як жа пасярод штуршкоў памятаць
 пра скарб Сьвету?”
Я ўсьміхнуся і скажу:

- Гэта проста. Вазьмеце на марскім беразе
 каменьчык, згладжаны хвалямі,
І з думкаю пра скарб Сьвету нясеце з сабою!
І калі вас штурхнуць і пакрыюць пылам вашую вопратку,
Тады вы возьмеце ў руку абраны камень,
І не забудзецеся пра скарб Сьвету,
 які Я вам запаведаў данесьці.
Памятайце, памятайце, памятайце.
Я сказаў.

367. Пастухі атрымлівалі адкрыцьці.
Каралі шукалі.
Кніжнікі ўпарціліся.
Правадыры жахаліся.
Голас Бога перавышае ўсё, калі прысутнічае духовасьць.

368. Пульс уяўляе сабою сынтэз вібрацыяў.
Кожны арганізм, аж да Сусьвету, мае свой пульс.
Чуйны апарат абудзіцца да дзеяньня
 нават ад пульсу чалавека.
Пульс атамаў стварае сукупнасьць энэргіі,
 што латва ўкладаецца ў формулу.
Запомніць яе яшчэ ня дадзена, бо яна прывядзе
 адно да зьнішчэньня.

Таму кажу пра пыл, ён зацярушваецца глыбока
 і служыць як пальчатка для рукі ворага.

Людзі пакідаюць за сабою цёплыя,
шэрыя пальчаткі для чорнага госьця.

369. Крык зямлі зьнішчае рост духу.
Ды вы праз Браму цярпеньня хадзеце.
Ды вы цераз Браму разуменьня Слугаваньня ўвайдзеце.
І найважнейшае, памятайце пра Лотас Даверу
і ўдзень, і ўночы.

370. Прачытайце і падлічэце, колькі разоў
нават Хрыстус сыходзіў у пустыню.
Нават Ягонаму Духу бракавала праны.
Зважайце – зьявы кожнага дню поўныя глыбокага сэнсу.

371. Слухайце!
Бо хачу, каб вы маглі падысьці да Мяне
радаснымі й сьветлымі ў дзень Вялікага Змроку!

Праўда.
Я даверыў вам шмат.
Я даў вам тэрміны і перасьцярогі.

Я даў вам магчымасьць перамогі.
І адамкнуў вам Таямніцы Нашых пастановаў.

Вы можаце перамагчы і праясьніцца.
Але аддайце Мне дар ваш.

Калі хто мае страх,
Няхай дасьць Мне страх.

Калі хто мае сумнеў,
Няхай дасьць Мне сумнеў.
Калі хто мае гнеў,
Няхай дасьць Мне гнеў.

А калі дасьцё прыгоршчы малых рэчаў,
Я прыйму й гэтыя запыленыя цацкі
І ператаллю іх у Маёй Вежы.

Праўда, калі пажадаеце зноў ужыць ваш дар,

Не забудзьцеся, чаго варты той, хто адбірае
аднойчы падоранае.

Вось Я прыняў і страх, і сумнеў, і гнеў – гэта Мне.
А вам – шлях да Сьвятла,
Бо хачу, каб маглі падысьці да Мяне
радаснымі й сьветлымі
ў дзень Вялікага Змроку перад Узыходам.

372. Ведаю цябе, хто скрабесься ў дзьверы,
Ты спадзяесься на плячох госьця пракрасьціся
ў Мой Дом.
Ведаю цябе!

Ты зрабіўся рафінаваным і дасьціпным,
нават дасьціпнейшым ад шматлікіх Маіх.
Ты прымацаваў зашчапкі
І падрыхтаваў строі.
Ты нават вывучыў усе Мае словы.
Чую – нават паўтараеш: РАДАСЬЦЬ.
Але тут Я спыню цябе.
Ты не асьмеліська сказаць: радасьць каханьня.
Твая радасьць – радасьць нянавісьці.

Але за нянавісьцю гойдаецца пачварны цень сумневу,
І не прыдатны для тарчы сумнеў.

Я прыйму на Тарчу Маю ўсе твае стрэлы.
А калі заўпарцісься,
Я выпраўлю табе з усьмешкаю толькі адну.

373. Праўда рвецца зь енкаў цела.
Вершнік паганяе каня,
Ды скрыдлы нясуць хутчэй.

374. Чаму мелася быць загубленай зямля?
Чаму разбураным быць храму?
Айца гнеў сьцішыцца.
Раньні птах гатовы сьпяваць аб тэрмінах.
Прароцтва дзён спраўджваецца,
І разьлітыя келіхі Арханёлаў.

Сьвятым будзь Імя Тваё, Ойча!
Народ паўстане духам.
Цуд ёсьць просты:
Каханьне – цуд, Краса – цуд.

375. Калі хмары ўсьцелюць усё неба
І перуны б'юць навокал,
Ці ня лепей застацца ў мурох дому?

Калі залева пральецца праз ваканіцы,
Усё-ткі будзе бясьпечна.
Калі вы будзеце ведаць:
Ёсьць досьвед дзеяньня,
Ёсьць досьвед маўчаньня.
Калі Я кажу: "Дзейце" –
Знайдзеце ўвесь досьціп дзеяньня.
Калі Я кажу: "Маўчэце" –
Знайдзеце ўвесь досьціп маўчаньня!

І калі доўгі досьвед дзеяньня, то кароткі досьвед маўчаньня.
І таму дзейце маўчаньнем.
Аднак калі захочаце ўсё-ткі праявіць моц дзеяньня – паклічце дзяцей!
І дзейце зь дзецьмі,
Тады ня трапіце ў падрыхтаваныя пасткі.

І кароткі ёсьць час,
І вы ведаеце тэрміны.
Я сказаў.

376. Найлепшыя лекі, найлепшая зброя – вашае ўсьведамленьне Нашага апекаваньня.
Калі сьцьвердзіцеся ў лучнасьці з Намі, пройдзеце пераможцамі.
Праяўляеце гэройства – расьціцё як волаты.

Гэтыя жахаюцца разбурэньню, тыя радуюцца яму,
Але для вас кожны павалены мур ёсьць толькі шляхам да Сьвятла.

377. Я пакажу Тарчу Маю тым, хто йдзе.
Пакажу тым, хто зьнішчыць праявы самалюбства.
Пакажу тым, хто азначаны час шануе.
Пакажу тым, хто адчувае шлях Слугаваньня.
Пакажу тым, хто намёт свой ахіне Маім Імем.
Пакажу тым, хто тарчу сваю нясе проста.
Я аб’явіў вам Волю – не парушце.
Я вас вяду, не ўхілецеся і не падзярэце тканіны гэройства!

378. Льга глядзець толькі ў прышласьць.
Пакуль належыць зьвярнуцца толькі да дзяцей.
Толькі ў іх ёсьць законны пачатак справы.
Калі абіраеце новы шлях, толькі ў дзецях знойдзеце моц даверлівасьці.

379. Сярод джаленьняў праходзіць сэрца сьвітанку.
Падумай, розуме, і раскінь сеткі.
Паслухай Наказ нязмоўчны!
Цуду не адабраць, і ня выгнаць пакліканых зь іхнага дому.
І ты, хто ведаеш плынь Зораў, саступі шлях свой!
Бо ведаю цябе, сейбіта хісткіх думак.
Табе кажу, пазбаўся свайго зухвальства!

380. Заўжды лепш пакінуць вырашэньне на ранак.
Раніца насычана пранаю.
Па заходзе слонца шкодна высільвацца.
Вечар ёсьць часам аддаваньня,
Раніца ёсьць часам спазнаньня.

381. Хто сказаў, што трэба аддаваць неразумна?
Неразумнасьць так і застанецца неразумнасьцю.

Адзін думае: вось я ўжо аддаў.
Другі думае: я аддаў і наблізіўся.
Трэці думае: я аддаў і ўжо заслужыў.

Але ўсе іхныя дарункі ў дрыгве.
Мы ня можам аддаць чужой маёмасьці.
Мы ня можам аддаць таго, што атрымалі на захоўваньне.

Калі аддасьцё сябру захоўваць маёмасьць
І па вяртаньні папросіце вярнуць,
Што адчуе сябра?
Радасьць, што яму ўдалося вярнуць перахаваную маёмасьць.

Таму радуйцеся і малецеся:
Ойча, Ты даў мне Тваю Ласку на захаваньне,
Ты навучыў, як захаваць Яе.
Навучы цяпер, як вярнуць тое, што перахаваў,
На Голас Твой, мой Валадару!

Радуйцеся – Я сьцерагу.

382. Як сланы праходзяць праз лес,
Ломяць хмызьнякі ды рассоўваюць дрэвы,
Гэтак вы хадзеце ў Вялікім Слугаваньні.

Таму ўмейце змагацца.

Шматлікія пакліканы да спазнаньня,
Ды не шматлікім адчынены таямніцы рашэньняў Нашых.

Таму ўмейце змагацца.

Вы ўбачыце, як ганьбяць Маю Тарчу.
Вы ўведаеце, як падмяняюць Мае скарбы.
І вы ўздымеце ваш меч.

Таму ўмейце змагацца.

Найважнейшае, сьцеражэцеся здрады й легкадумнасьці.
Зь легкадумнасьці нараджаецца здрада.

383. Сумнеў зьнішчае зброю,
Кожны хісткі камень хістае вежу.

384. Рука Мая ёсьць толькі над непахіснымі.
Слабасьць ды легкадумнасьць нараджаюць здраду.
Здраду судзім не па прычынах, ды па наступствах.
Вольным ёсьць кожны, але суд нясе паводле справаў.
Жорсткасьцю ня грукаюцца да Пасьвячэньня.

Трэба шчасьце мацаваць працаю.

Набліжаецца час, калі спраўдзіцца запавет.
У прызначаную часіну сьвет атрымае тарчу Ўкладу.
Асягаем удзень, уночы атрымліваем пацьверджаньне –
радуемся з таго.
Пасланы час асягненьня скрутку жыцьцяў.
Пасланы час сьведчаньня.
Паказаў крыло Арханёла,
А на ім надпіс сьвету.
Моц Нябесная разам з Намі сьведчыць.
Мовам наканавана ўведаць Новае Слова Каханьня.

385. Пара падумаць пра Новы Сьвет.
Навучаньне Маё адчыняе дзьверы да дзеяньня.
Як шалёныя, мітусяцца людзі, якія ня ведаюць будучыні.
Прапашчыя натоўпы імкнуцца да зьнішчэньня.
Інстынкт нясе іх да прорвы.
Паглядзеце на памкненьні шаленцаў.
Ашчэрваюцца новыя злачынствы.
Праявы яўныя не турбуюць глуздоў паўглоўкаў.
Пустым ёсьць для іх час.
Цяжкі для тых, хто адрозьнівае сьвятло.

386. Прашу абвострыць волю, дапамагае лёту стрэлаў.
Воля ёсьць цецівам луку сьведамасьці.

Прадчуваю хмару над Эўропай –
Дрыгва разьзявіла пашчу.

387. Трэба зразумець час – няможна мець
звычайнага аблічча, калі горы скаланаюцца.

388. Нават каменьне, што зьвініць пад нагою,
дасьледуйце,
Бо й на ім могуць быць сьляды Майго Прыходу.

Нават вы, хто чакаеце,
Нават вы можаце не прызнаць часіны Зьяўленьня.
Бо чакаць нялёгка,
Але Я дам вам прыкметы ды палёгку.

Уночы Я не прыйду.
І ў гадзіны, калі праменьне слонца не дакранаецца
 да зямлі, дазвольце духу вашаму супакойна адысьці
 да Сялібы Творцы.
Таксама скажу, як трэба чакаць удзень.
Не са сьпевамі, не з замілаваньнем чакайце,
Але ў напружанай працы вашай у Імя Маё.
Ня ў часе сну, не пры ежы,
Але за працаю Я апраўдаю Маіх улюбёнцаў.
Рана, калі цьвердзіце сяміслоўе, скажэце:
Дапамажы нам не мінуць працы Тваёй!
І паўтарайце Імя Маё, і сцьвярджайцеся ў працы Маёй,
 і вы дойдзеце да дню Майго.

Запомніце і чытайце Словы Мае.
У гэтых цяжкіх днёх працаю апраўдаецеся,
 і дзеяньнем узьнясецеся, і Маім Імем дасягнеце.
Я сказаў.

389. Ня фабрыка, ды майстэрня духу адновіць сьвет.
І наклееныя людзьмі шпалеры, што заляпілі сітавіны жыцьця,
 будуць змытыя ўлевай суворай Боскай Ласкі.

390. Гэтак у працы вы спаткаеце Мяне.
Але дзе ж прыкметы працы?
Хуткасьць, рашучасьць і самаадданасьць.
Але хутка й рашуча можна дайсьці і да прорвы.
А ваш шлях да вяршыняў.
І таму яшчэ дадайце – і мудра.

І прымеце за звычай рана,
Распачынаючы дзень, папытацца ў сябе –
Што можаце дадаць да працы даручанай?
Каб Імя Маё ўвайшло ва ўсе справы вашыя,
І ўвайшло не перашкодаю, ды сьцьверджаньнем.
Не замінала, не ўскладняла, ды ўвайшло
 як частка вашых рашучых думак.

Гэтак у працы мудра, і прыняўшы Тарчу Імя Майго,
Пераможаце ўсё, што перашкаджае на шляху ўзыходжаньня.

Гэта ёсьць рада для неадкладнага прыняцьця да справы.
Гэтаксама дакладна і проста кажу:
чытайце і зразумейце прасьцей Маю Навуку,
і не ўпускайце тэрмінаў.
Рука Мая з вамі.

391. Памятайце, як трэба захоўваць Статут,
Асабліва ў днёх забурэньня сьвету.
Лічэце дні, калі ацалелымі пройдзеце сярод пажару.
Руку даю вам, павяду бяз шкоды,
Ды розум майце і Рукі не адрыньце.
Пасьля Маіх наказаў самі ўбачыце памеры пажару.

Сорам не адчуваць мяжы Новага Сьвету.
Брыдка валачы канцы вяроўкі шыбеніка.
Новае слонца ўпусьцеце ў вакно!

392. Доўга цягнецца хвост непаслушэнства.

393. Ні Айчына, ані слаўныя чыны –
Яны йдуць, поўныя злосьці.
Норавы чыстыя зьмеценыя вагнём.
Рука можа толькі набіваць гармату.
Але навошта Твар Бога?
Яму да твару Новая Краса.

394. Ацалелы памятае спраўджанае з удзячнасьцю.
Магутны глядзіць у прышласьць, узьняўшы меч.
Мудры прадчувае будучае заданьне.
Прыўкрасны духам дрыжыць сугуччам Сусьвету.
Шукайце прычыны ўздымаў і заняпадаў духу
ў скалананьні плянэтаў.
Сьвет зьяднаны сугуччам духу.
Цуд успрыманьня ёсьць уласьцівым усім разумным істотам.
Але ведаючы тыя токі, Мы не называем іх ціскам,
Ды шукаем новую працу па-за межамі ўзьдзеяньня.
Уночы месяц, удзень слонца.
І нават неразумны разьмяркоўвае жыцьцё
паводле гэтых нябесных целаў.
Неабсяжны ёсьць Сусьвет, незьлічоныя барвы Сьвятла.
Паглыблены ў сугучча дух сьпявае песьню ўсіх сэрцаў.

Таму радуйцеся, калі можаце адчуваць.
Сонны дух пазбаўлены ўзьдзеяньня.

395. Шануйце Пачатак.
У Брацтвах, вялікіх ды малых, усе дзеі
перадаюцца цераз Старэйшых.
Могуць быць рады й натхненьні,
Але дзеі ідуць з аднаго Вытоку.

Не чакайце дароў, але зьбірайце скарбы.
Магу даць вам усе пэрлы сьвету,
Але што ўчыніце са скарбам?
Знойдзеце для яго жалезнае, найсьцюдзёнейшае,
наймярцьвейшае мейсца, і памрэ дар.

Але йнакш будзе, калі пад Маёю Рукою наніжаце
самі нітку пэрлінаў душаў людзкіх
і самі параўнаеце памеры і каштоўнасьць.
Шукайце новых – яны дадзеныя і накіраваныя,
Але не адрыньце іхнае стуканьне.

396. Трэба цаніць кожную гадзіну Маёй Справы.
Трэба вобмацкам знаходзіць дзьверы Сьвятла.

397. Належыць учынкамі ўшаноўваць Руку Водзцы.
Можаце павялічыць моц усьведамленьнем Тарчы.
Падышоўшы да раздарожжа, бярэце толькі новую сьцежку.

Суд Мой гатовы, але знайдзеце ўвесь досьціп,
ашчаджайце расход энэргіі.
Трэба крынічкамі папаўняць раку, ды не засьмечваць.
Хмары згусьціліся, ня трэба ўшчыльняць іх.
Праўда ёсьць простая – можаце зразумець.
Здолейце Настаўніка слухаць.

398. Найважнейшае, дзейце ня гневам,
ды абурэньнем духу.
Вагонь гневу дзіравіць тканіну Сьвету.
Але калі дзееце абурэньнем духу,
бароніце Імя Паньскае ды моц Настаўніка вашага,
То нават удары будуць апраўданымі.

Таму адрозьнівайце ва ўсім вагонь гневу
і ачышчальнае полымя абурэньня духу.

399. Мудрасьць расьце не стагодзьдзямі, ды часінамі.
Калі краіны зьліваюцца вокамгненна,
Калі муры вязьніцаў валяцца – будзьце нязломнымі.

400. Калі б вы маглі прыпомніць
захапленьне вызваленага духу бяз злосьці,
Вы бы весяліліся, ды ня плакалі!
Абцяжараны злосьцю дух ня можа ўзьняцца,
Але вызваленая дабрата ляціць да яснасьці Сьвятла.

401. Замахвацца на радасьць духу могуць адно
тыя, хто носяць камень у сэрцы.
Скрыдлы шчасьця дадзены толькі прамяністым душам.
Ня трэба натоўпаў ды войскаў – льга дасягаць
адзіным узьлётам духу.
Еднасьць перамагае зграі.

402. А вы пройдзеце сьцежкаю,
бо слугаваньнем гарыцё.
Выпраўляю вам моц, бо доўгі ваш шлях
І шмат каменьня ля чужой брамы.
Але вы ўжо бачылі колер Майго Промню,
і вы, ідучы са Мною, ужо перамагалі нябесныя целы.
Еднасьць – велькая моц.

403. Калі прызначаны вялікі шлях,
трэба асьцярожна абмінуць павароты.

404. Кожны ў сабе, кожны па-свойму,
Але ўсе пра дух – як данесьці келіх.
Памятайце, сябры, як мы зьмяняем мейсцы ды час жыцьця.
Калі працуеце дзеля людзтва, трэба зьмяняць мейсцы,
бо задушлівае дыханьне людзей.

405. Кніга вашая дасьць радасьць шматлікім,
Ды засмучэньне нават друкар прынясе,
бо незьлічоныя засмучэньні.

406. Відзежы ёсьць толькі падрабязнасьць,
Сьвет тэлефонам не будуецца.

407. Бачыць вогнішча ўзгодненых сэрцаў,
якія выканалі заданьне Творцы, –
дзівосная сьведамасьць.

408. Каштоўным ёсьць гарэньне – прыліў і адліў
вядуць арбіту Зямлі.
Тая самая кропля працуе ў вабодвух зьявах.
Горш стаялая вада, бо загніваецца й ня служыць
для праяўленьня энэргіі.

409. Ня трэба двойчы затрачваць энэргію там,
дзе ўдар гатовы.

Ня дадзена апісаць Брацтва.
Як невідушчы можа апісаць яблыневую квецень
ці вышыню вежы?
Там, дзе спапялілася сэрца, там падраныя струны.

410. Як вызначыце меру справаў вашых?
Калі справы маюць карысьць для ўсяго сьвету,
дык і мера добрая.
Як вызначыце якасьць справаў вашых?
Калі справы карысныя для ўсяго людзтва,
то й якасьць добрая.

411. Здолейце зразумець адпачынак між дзеямі.
Бо гэты адпачынак ёсьць назапашваньне моцы.

412. Не лякайцеся, бо добра задуманае ёсьць
трывалым.

413. Не зласлоўце і не праклінайце,
Бо град праклёнаў балюча б’е галаву таго, хто сказаў іх.
Здолейце абараніць Імя Маё і Справы Мае ад здрайцаў,
Бо шмат выпадкаў будзе прад вамі,
калі можаце пакласьці канец паклёпу.

Пара дзеяць – і Наш давер з вамі.

414. Трэба даравацьЬ людзям неразуменьне.
Харошыя людзі часта вінныя ў памылковых меркаваньнях.
Істотна даравацьЬ першыя памылкі.

415. Унікайце мейсцаў, дзе пануюць гнеў ды разьяднаньне.
Туманнае ўяўленьне людзкое.
Здолейце йсьці па-над рукамі, што цягнуць дадолу.
Калі сядаюць у човен, ня думаюць пра ключ ад хаты.

416. Тое, што ўпушчана, не вярнуць.
Ноч па-начному развіжае.

417. Даю вам Навуку, кармічныя паведамленьні, Наказы.

Навука прыдатная для ўсіх, для ўсяго сьвету.
Чым шырэй усьведаміце, тым лепей для вас.
Мы даем кармічныя паведамленьні з каханьня ды клопату пра вас.
Папярэджваем і дазваляем вам стрэць хвалю кармы зь веданьнем.
Таму не дзівецеся, калі знакі пра карму не заўжды бываюць для вас зразумелымі.

Наказы заўжды зразумелыя і мусяць быць выкананыя без прамаруджаньня.

418. Хачу назваць вашую хваробу – гэта акультная ліхаманка; зьява, знаёмая Нам,
Але ўзмоцненая зьнямогаю ды пераменаю арганізму.
Трэба ашчадна перажыць гэтую пару.
Падчас бітвы абвінаў вас шчыльнаю аўраю, –
Гэта падобна на хлараформ,
пасьля трэба аддыхацца.

419. Цяпер хадзеце як сланы,
Бо ведаеце: праменьне клопату й каханьня над вамі.
Памятайце пра ўсё добрае і пагарджайце перашкодамі.

Вашая праўда, бо ўсьведамляеце лавіну знакаў,
 якія ўпершыню праліваю пасьпехам.
І калі ў бітве вы атрымалі драпіны, загаеце іх ашчадна
 ды ня падайце духам, вы, воі Сьвятла.

420. Вы ўжо пачынаеце аблятаць сьвет думкай.
Вы ўжо пачынаеце пераадольваць акіяны.
Вы ўжо асягаеце радасьць тварэньня.
Вы ўжо сьпяваеце пра ўзьнёсласьць ад упрыгожаньня жыцьця.
Ужо шмат чаго зроблена.
Сябры Мае! Чаму не пастанавіць вам прайсьці
 ўсё гэтае жыцьцё гэроямі?!!
І калі кажу: "Можаце адпачыць",–
Значыць, ведаю, бо шаную вас.
Я сказаў.

421. Хіба трывожым чаканага госьця асабістымі
 жаданьнямі?
Адно сьпяшаемся адчыніць браму,
 хоць бы жаданы прыйшоў.

Няхай, хто ня ведаюць, моляць прастору,
Але тыя, хто спасьціглі, толькі дапамагаюць падзеі.

Рука часта працягваецца, але сьляпыя спрабуюць
 адрынуць яе.
Таму спыніць зараджэньне дзяцей ёсьць горшым
 ад забойства.
І гэтаксама нягожа нагрувашчваць складанасьць
 сваіх жаданьняў.
Перад прыходам госьця лепш праветрыць хату
 і ў цішы, гаворачы пацеры, памкнуць вочы да красы.

Ня трэба надумляцца –
Няхай дух ідзе вольна.
Ад цяжару зямлі трэба аслабаняцца.
Пласты выпарэньняў ахутваюць кожную калыску.
Ухвалёная матка, якая адсланіла калыску да сьвятла
 і паднесла першую краску.
У цішы, з усьмешкаю і ў прыгажосьці чакайце новых,
 хто стукаюцца ў сьвет.

422. Дапамога ў духу – наймацнейшая.

423. Як краскі растуць адкрыцьці ды разьвязваюцца пытаньні Быцьця.
Перад новым асягненьнем асабліва баліць сэрца,
Ды гэты боль у чыстым мейсцы абернецца веданьнем.
Мінецца ўтома, і здабыткі духу як калосьсе
ўздымуцца зь зерня.
Па-за астралам ёсьць сфэры ўведаньня
лёгкіх суадносінаў з плянамі эвалюцыі.
Паданьне пра ўзяцьце да неба мае навуковую падставу.

424. Цяпер спатыкаеце ў жыцьці чатыры роды людзей:
Адныя б'юцца пад Нашаю Тарчой;
Другія б'юцца без аховы, але ўжо сканчаюць плынь кармы;
Трэція брыдуць, асьлепленыя цёмнай заслонай лёсу,
І чацьвертыя – ворагі Сьвятла.

Першыя зразумеюць ваш кліч,
Другія затрапечуцца ў чаканьні,
Трэція тупа адвернуць галаву,
А чацьвертыя стрэнуць стралою вашую стралу.

Такім чынам, не паўтарайце Навукі.
Кожнае слова ўпадзе на патрэбную глебу,
і наканаванае будзе прынята.
Таксама не адхіляйце і не адмаўляйце.
Кожнае меркаваньне ёсьць ужо праявай чыннасьці.
Што з адмаўленьня пажару, калі вагонь ужо палае?
Але прыкрыйце вагонь, і моц ягоная зьнікне.
Гэтаксама не дасягнеце, калі будзеце адмаўляць меркаваньні,
Але пакрыйце адмоўнае меркаваньне Нашаю Навукай,
І ўсё варожае места агорнецца купалам Нашага Брацтва,
бо пад гэтым купалам зьмесьціцца ўсё!

Даю вам прытулак, даю вам моц, даю вам шлях прыўкрасны.
Я сказаў.

425. Выпрабоўваньне людзей бясконцае.
Трэба паўтараць аж да абрысаў на глуздох.

Рукою лацьвей на ілбе напісаць.

Праўда лепшая ад мары.
Праўда Будучага Сьвету высокая.

426. Каб Мае новыя вучні здолелі засвоіць запавет Мой,
сувора трэба паўтараць дадзенае раней.
Ды кожны кінуты ў вас камень павялічвае вашую вежу.

427. Толькі час ушчыльняе веды.

428. У сьвяты вечар Найвялікшага Сьвята
ў Імя Ўсясьветнага Сымбалю – кажу вам:
Вы дапушчаныя да працы пабудовы Новага Сьвету,
Да вас кажу: Умацоўвайце вочы,
каб не асьлепнуць, калі прыадчыню заслону Будучыні.
Калі апануе вас зьбянтэжанасьць, уздымеце тарчу
адданасьці, бо ёю захаваецеся,
І паўтарайце Наказы, да вас кажу: Паўтарайце.
Я наказаў.
Чую – можаце асягнуць: пра сур’ёзнае кажу.
Патрафлю Руку ўзьняць за абраных.
Я тарчу ўздыму.

Дынару, дзіця праклёнаў, ня засьці шляху да Сьвятла!
Дынару, не гнабі чыстае зьявы!
Не прагледзьце хмары,
Але жыць радасна таму, хто мае скрыдлы.
Усьмешка Мая вас сьцеражэ.

429. Перамога ляяльнасьці забясьпечаная.
Паглядзіш далёка – блізка ўбачыш.

430. Я вас вучу Ўрачыстасьць Нашую паказаць
чужым сэрцам як нешта нязначнае.
Чыста Я крыж дзівосны над вамі трымаю.

431. Настаўнік на люстэрку бачыць фільму
ўсіх вашых рухаў.
Змучанасьць як дым ахінае вас,
Ды праменьне рашучасьці разьдзірае заслону

над вашымі рамёнамі.
Галовы акрашаныя срэбрам праменьняў.
Чужыя аўры як слупы мосту таўкуцца ля ног.
Уплыў мужнасьці штурхае чужыя аўры дадолу
пунсовымі стрэламі.
Сіні вагонь сэрца нішчыць дым змучанасьці.
Праца йдзе, канчаткі праменьняў высокія.

432. Я, Я, Я чытаю вашыя думкі штодня.
Настаўнік правярае творчасьць улюбёных вучняў.
І калі змучанасьць не замыкае вуснаў,
мова ліецца як струмень Гімалаяў.

433. Чыстыя думкі дрыгва не паглыне.
Спагада абараняе,
Але трэба паслаць каханьне.
Цярплівасьць перанясе вас па-над,
пакуль суворыя духовыя чыны не ператворацца
ў водар фрызыяў.

Цуды Настаўніка растуць.
Пасярод саду каханьня растуць ясноты духу.

Утамляйце Мяне цяпер, нагружайце болей,
ускладайце цяжар сьвету, але памножу моц.
Памножу моц дачкі Маёй, бо яна йдзе да Майго саду.
Урусваці, чуеш?
Цяжар расквітнее ружамі і травы акрасяцца ранішняй
вясёлкай.
Таму ўтамляйце Мяне.
Калі йду да саду прыўкраснага, не палохаюся цяжару.
Думаю, думаю, думаю.

434. Ад елкі можаце вучыцца – яна аднолькавая
ўзімку і ўлетку.

435. Вось яны прыйдуць і скажуць: “Мы ведаем”.
Вы адкажаце: “Добра, калі ведаеце, варочайцеся дадому”.
Вось яны прыйдуць ды яшчэ настырней скажуць:
“Мы ведаем, хто стаіць за вамі”.
Адкажэце ім: “Добра, калі ведаеце, то ня будзеце

так гаварыць”.
Вось яны прыйдуць гуляць у косткі на сходах Храму
і будуць кідаць жэрабя аб вас.
Скажэце: “Праходзьце, людзі, іначай тут вас заб’е пярун”.
Але вось прыйдзе ён і скажа вам: “Ня ведаю я,
і вось усё маё дабро са мною, куды дзець яго?”
І скажэце яму: “Увайдзі цераз парог, мы знойдзем
для цябе мейсца пры доўгім стале.
Бо калі ты ня ведаеш, то будзеш ведаць”.

Таму й кажу:
Утамляйце Мяне, нагружайце Мяне ўсім цяжарам сьвету.
Не прыстану, не адыду ў зьнямозе,
Бо ня ведаю, што ёсьць стома, – выжану гэта.
І прашу вас, утамляйце Мяне, інакш не дайсьці
да саду прыўкраснага.
Я сказаў.

436. Усьміхайцеся кожнаму прыніжэньню –
гэта праўдзівы знак цуду.

437. Шукайце сьвятло для праяваў цемры.
І чыстыя пакажуць разуменьне Тарчы, бо з Намі ёсьць Бог!
Церазь вечныя Ягоныя Зьявы прасочваюцца кроплі
Сьвятога Сьвету.
Скарбы кропляў ды яскаркі сьведамасьці
новым мостам злучаць Нябёсы зь зямлёю.
Сьцьвярджаемся ў яснотах яскаркаў і знаходзім усьмешку.
Але валоданьне ўсталёўваецца ўсьведамленьнем
перамогі над сабою.
Перамогшы сябе, паўстане зь мёртвых пераможца.
І таму гучна трубеце пра перамогу,
Бо з Намі Бог.

438. Цуд лепш на чысты кіньдзюк.
Каханьне сьвету лепш на чыстыя глузды.
Зьневажайце ежу гэтак жа як і сваркі.

439. На адзінае слова ствараліся імпэрыі зла.
Няўжо Ствральная Боская Моц замарудзіць,
Калі ўсе Сілы Нябесныя ўзьняліся?

На Загад Найвышшага праменьне працінае сфэру Сонца.
Хвалі акіяну плянэтаў пакрываюць плынь нябесных целаў.
Суворыя ды прыўкрасныя часы!

440. Новы штандар вымагае новых людзей.

441. У гэты час той, хто прыйшоў бязь веданьня
ўжо будзе сядзець пры стале
і будзе напаўняцца ведамі.
Усё напоўнена знакамі ды набліжэньнем.
Калі хочаце даручыць мінаку занесьці вестку
да суседняй хаты, вы скажаце:
“Дружа, перакажы нашым сябрам даручэньне”.
Часта пасьля й ня ведаеце нават гэтага вестуна.
Гэтак і ў жыцьці: глядзеце, што прыносяць вам,
і ніколі не бянтэжцеся ад выгляду таго, хто прынёс,
асабліва ж калі ўсё навакольле поўніцца знакамі.
Папраўдзе, шчасьлівыя вы, бо ведаеце
прыкметы набліжэньняў ды наканаваныя тэрміны.
А таму чакайце ды радуйцеся.

442. Доўга зьбеглым быць неспакойна.
Дорага плацім за самалюбства.

443. За што Нас прыймаць за жарсьці вулкану,
Калі фрызыі ёсьць улюбёнымі краскамі Нашымі?
Пакіньце ворагу пунсовую сьпёку,
Для Нас бліжшыя дыямэнты вяршыняў.
Ужо бачыце ягоныя хітрыкі.
Ах, як ён шчыруе! Як яго ўпэўніць,
што ягоны будынак ня болей, чым вязьніца,
а вязьні заўжды мараць пра ўцёкі?
Якая ж радасьць цягнуць за сабою вязьняў?
Зрэшты, у гэтай спрэчцы ён мае іншую думку.
Навуку ягоную перанялі Альбэрыхі.

444. Неабходная афяра – гарэньне афяры ёсьць
накшталт азону.
Нават дзікуны спальваюць афяру, груба ўважаючы
сымбаль дзеяньня.

445. У Імя Вечнага Руху,
У Імя Адзінае Моцы
Паўтараю:
Карэньне дрэваў замацоўваецца ў зямлі,
Вашыя веды замацоўваюцца адно ў часе.

Таму ведайце тэрмін, каб не ўхапіць раней, чым наканавана.
Зарана схопленае, як і запозьненае, падобныя ў канчатку і ў сэньсе.

446. Папраўдзе кажу: нават крошкі карысныя ў Вялікім Слугаваньні.
Льга сабраць начыньне агульнае працы з учарашніх хлябоў даёмы Майго духовага Навучаньня.

Абароніцеся толькі Імем Маім,
Іншыя тарчы не дапамогуць.
Лепш зразумець у свой час.

Я паклікаў на пабудову і працягнуў Рукі Маім каханым носьбітам тарчы,
І шлях ім адчыніў,
Няхай заўжды памятаюць Руку, якая іх Уратавала і Вядзе.

447. Мужна йдзеце наперад.

448. Мудра абернем усё на карысьць.

449. Зьбяру дачок, няхай памогуць засадзіць сад прыўкрасны – няхай галоўкі новых красак напоўняць сад.
Чую, што хутка можна чакаць парасткаў жыцьця Новага Сьвету.

450. У цудзе аднаўленьня жыцьця прыходзіць Новы Сьвет.
Рука Мая сярод зьяваў кожнага дню.
Шчасьце бачыць цуды, што бароняць як тарчы.
Я сувора Мае словы пацьвярджаю.

451. Хто ўмее хаваць – бліжай знойдзе.
Утаймаваць хвалю льга толькі своечасова вылітым алеем.

452. Калі дзяўчына ўвечары і ўночы імкнецца прынесьці карысьць сьвету,
Калі яна марыць пра невыказнае, прыўкраснае ды высокае –
Ці далёка гэта ад жыцьця?
Калі мары гэтыя былі прыўкраснымі,
ці ня будзе прыўкрасным і адказ на іх?

Нашто шукаць зьменаў жыцьця,
Нашто забурваць старое, калі адзіны ўздых
адчыняе нам дзівосную краіну?

Ты жахалася прад дзьвярыма цямніцы,
Табе здавалася нязбытным, каб адчыніліся
жалезныя дзьверы, але вось даю табе ключ.
Злаўчыся толькі пакруціць яго гэтулькі разоў, колькі наказана,
ня больш і ня менш – так як трэба.

Хіба далёкім ёсьць гэройства? Ня трэба дзікіх зьвяроў,
ня трэба суду і ваякаў – духовы чын блізкі!

Ты трос мачугаю ды выклікаў сьвет на бітву –
Вось ідзе да цябе сьвет, агледзь насеку.

Ня трэба ілжывай клятвы, ня трэба змаганьня духу –
Урачыста можаш сказаць прысягу Праўды.

Ты, якая зорыш, табе даю –
Дадай кроплю Маёй Справы да пітва
І памачы хлеб у віно веданьня гэройскага чыну,
І дай ежу тым, хто прыходзяць.

Радасна ўзыдзеце на новы сходзень часу.

Папытаюцца: як перайсьці жыцьцё?
Адказвайце: як па струне прорву –
Прыгожа, ашчадна ды імкліва.

Навука Жывой Этыкі